7

Спачатку трэба галасаваць, каб прыняць праект „за аснову” з удакладненьнем, што прымаецца канстуцыйны закон. Зарэгістравана 265 дэпутатаў. Прыступаем да галасаваньня. Шушкевіча не пазнаць: „Я вельмі прашу не хвалявацца, – сыпле ён скарагаворкай. – Прашу ўсіх народных дэпутатаў сесьці на свае месцы і захоўваць той добры парадак, які ў нас захоўваецца ўжо больш чым гадзіну” і г. д.

Прагаласавала „за” – **253**, „супраць” – **0**, устрымаўся – адзін, не галасавала – **11**. Было 20 гадзін 08 хвілін[10]**.** Потым прагаласавалі папраўкі па пунктах і, нарэшце, галасаваньне за закон „цалкам”. Зарэгістравалася – **265** дэпутатаў. Прагаласавала „за” – **256**, супраць – **0**, „устрымалася” – **0**, не галасавала – **9**. **Было 20 гадзін 12 хвілін 25 Жніўня 1991 года.**

Што тварылася!.. Апладысмэнты, усьмешкі, воклічы, сьлёзы...

„Віншую вас, паважаныя народныя дэпутаты, віншую вас, жыхары Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі! Закон прыняты”, – сказаў Шушкевіч. (Хаця, якая „савецкая” ды „сацыялістычная”, – гамон ужо гэтаму ўсяму!)

Адразу пачалі прымаць заканадаўчую падтрымку незалежнасьці і гэтаму канстытуцыйнаму закону. Было зьменена некалькі артыкулаў Канстытуцыі БССР і падпарадкавана Пракуратура ў веданьне Беларусі. Панавала поўнае паразуменьне і настрой на мяжы эйфарыі. Самы час было прыняць праект пастановы „Аб забесьпячэньні палітычнай і эканамічнай самастойнасьці Беларускай ССР”, падрыхтаваны Саўмінам. Валянцін Голубеў (адзін з каардынатараў Апазыцыі БНФ і чалавек з гумарам) устаў і перафразуючы М. Гарбачова (той любіў „раіцца” то з Палітбюро, то з народам), кажа: „Мы тут параіліся, спыталі ў Вячаслава Францавіча Кебіча і вырашылі, што трэба зараз прыняць праект, які ўнёс Савет Міністраў”.

Потым выступае Кебіч і абгрунтоўвае: „Цяпер, як ніколі, ёсьць неабходнасьць прыняць Пастанову Вярхоўнага Савета аб перадачы непасрэдна ў падпарадкаваньне Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Савета Міністраў Беларускай ССР органаў Пракуратуры, Міністэрства Ўнутраных Справаў, Камітэта Дзяржаўнай Бясьпекі і ўсёй маёмасьці, якая знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі.

Аб’явіць палітычную і эканамічную незалежнасьць і перадаць ва ўласнасьць Беларускай ССР усе прадпрыемствы, арганізацыі і ўстановы саюзнага падпарадкаваньня, якія знаходзяцца на тэрыторыі Рэспублікі” і г. д.

Пасьля шэрагу ўдакладненьняў пастанова была прынята таксама аднагалосна. (**0** – „супраць”, **0** – „устрымалася”)

Мы, дэпутаты Фронту, прапанавалі ў гэтых умовах вырашыць адразу і пытаньне з назвай краіны, скасаваўшы назву БССР і назвацца – Рэспубліка Беларусь. Але гэтае рашэньне адклалі на наступную сэсію.

А ў заключэньне адбыўся акт поўнай капітуляцыі намэнклятуры і Станіслава Шушкевіча. Па яго ж уласнай прапанове была прынятая пастанова аб скасаваньні ў парадку дня сэсіі пункту аб „саюзнай дамове”, з-за якога столькі яны патрацілі сілаў, энэргіі і дэмагогіі ўчора, 24 жніўня, у пачатку сэсіі, каб уключыць гэтую сваю стратэгічную пустышку і непатрэбшчыну на разгляд Вярхоўнага Савета.

8

Нам аж ня верылася нават у такую бліскучую і абсалютную перамогу, калі супраціўленьне зышло на нулі, асабліва калі ўспомніць учарашні дзень, пачатак сэсіі і гэтую масу разгубленых чырвоных і непрыхільных аблічччаў. Мы разумелі, што ўлада пакуль засталася ў іх (у савецкай намэнклятуры), але пэрспэктыва незалежнасьці і свабоды давала нам крыльлі. Трэба было хутка стварыць усе незалежныя атрыбуты дзяржавы (сымвалы, грошы, войска, амбасады, межы) і аснову вольнай нацыі (дзяржаўная мова, нацыянальная школа, прыватная ўласнасьць, дэмакратыя).

(Галоўнае было – захаваць парлямантарызм, не дапусьціць прэзыдэнцтва і каб не ўмяшалася Расея. Мы высільваліся потым у гэтым савецкім парляманце, каб адбудаваць нашую новую дзяржаўнасьць. І шмат што ўдалося. Наша дзяржава сталася. Але сілы былі настолькі няроўнымі, што праз пэўны час непрыяцелі акрыялі, парлямантарызм разбурылі, і Расея ўмяшалася. Акрамя нешматлікага авангарду грамадзтва яшчэ не гатовае было для разуменьня нацыянальнай дзяржаўнай палітыкі. Улада засталася ў старой савецкай каланіяльнай адміністрацыі з узурпатарам начале, палітыка стала антыбеларускай, а незалежнасьць – у небясьпецы.)

9

Калі пасьля сэсіі мы вышлі на плошчу, быў позьні жнівеньскі вечар. Мне здавалася, што перамяніўся сьвет, і ўсё ўжо цяпер новае, іншае, наша. Людзі на плошчы сьмяяліся, плакалі, абымаліся, гучэлі песьні, палілі газэты (замест паходняў).

Колькі было шчасьлівых аблічччаў! Ніколі ў жыцьці я не перажываў чагосьці падобнага, ніколі не адчуваў такой радасьці. Запомніўся наш Пётра Садоўскі. Ён стаяў на трыбуне сярод плошчы ў тлуме людзей і, быццам адзін, да самазабыцьця ад шчасьця сьпяваў народную беларускую песьню...

Дзьвесьце гадоў, пакаленьне ў пакаленьне, крок у крок, сьмерць у сьмерць мы ішлі да гэтага дня. І вось ён настаў. І верылася – ужо назаўсёды. Аднак пакуль жывы зьвер (што ўжо нібы здох, „як быццам ад раны”), ніхто ня ведае, колькі яшчэ жыцьцяў і часу, і волі прыдзецца пакласьці на алтар народнай свабоды. Але крэпасьць – наша. І нікому ніколі нельга яе здаць.

*22 сакавіка 2011 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

[10] Гэты час і першае галасаваньне зафіксаваў Сяргей Навумчык („Сем гадоў Адраджэньня альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988-1995). Варшава-Прага, 2006, стар. 64).



***14. Сьцяг БНФ***




# НЕЧАРГОВАЯ ПЯТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСКАЙ ССР

## ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ

## БЮЛЕТЭНЬ

## № 1

Выданне Вярхоўнага Савета БССР
1991

**ПАСЯДЖЭННЕ ПЕРШАЕ**

**/Субота, 24 жніўня 1991 года/**

**Зала пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.
12 гадзін.**

**Старшынствуе Старшыня Вярхоўнага Савета Беларускай ССР
М.І.Дзямянцей.**

Старшыня. Добры дзень, паважаныя народныя дэпутаты. Прашу ўключыць сістэму рэгістрацыі, народных дэпутатаў зарэгістравацца. Прысутнічаюць на ранішнім пасяджэнні 267 народных дэпутатаў.

Паважаныя народныя дэпутаты! Сёння Масква развітваецца з тымі, хто трагічна загінуў пры абароне расійскага Дома Саветаў у ноч з 20 на 21 жніўня. Указам Прэзідэнта краіны ўсім траім -- Дзмітрыю Комару, Іллі Крычэўскаму і Уладзіміру Усаву -- пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Прадстаўнікі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, народныя дэпутаты Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч і Грыбанаў Уладзімір Міхайлавіч прымаюць удзел у пахаванні і ўскладанні вянка ад Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Прашу ўшанаваць памяць загінуўшых мінутай маўчання. /Усе ўстаюць. Мінута маўчання/. Дзякую.

Первый микрофон включите, пожалуйста.

Пазьняк З.С. (Ангарская выбарчая акруга № 9, г.Мінск). Паважаны Прэзідыум, просьба ад дэпутатаў апазіцыі Беларускага народнага фронту прымацаваць побач з дзяржаўным сцягам Беларускай ССР нацыянальны сцяг Беларусі. Права на гэта дае нам наша гісторыя і Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі. (Апладысменты).

Старшыня. Прошу народных депутатов проголосовать за то, чтобы в зале Верховного Совета находился национальнальный флаг Белоруссии, который использует оппозиция от БНФ. Кто против? Кто воздержался?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 230 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 173 |
| Зарэгістравана | 267 |

| | |
|---|---|
| Прагаласавала "за" | 107 |
| Прагаласавала "супраць" | 47 |
| Устрымалася | 42 |
| Усяго прагаласавала | 196 |
| Не галасавала | 71 |

Рашэнне не прынята.

Прошу депутатов оппозиции от БНФ, учитывая, что вопросы о флаге, гимне решает Верховный Совет в соответствии с Конституцией, не настаивать больше на этом.

З месца. Большасцю дэпутацкага галасавання... /не чуваць/.

Старшыня. Я вас прошу показать пример хорошей работы. Есть Конституция, и мы не будем тут спорить. Прошу не настаивать.

Уважаемые народные депутаты! Дазвольце мне аб'явіць аб адкрыцці нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання.

У адпаведнасці з артыкулам 14 Часовага рэгламенту нам неабходна стварыць сакратарыят сесіі. Слова для прапановы па гэтаму пытанню мае намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР таварыш Шаладонаў Васіль Іванавіч.

Пазьняк З.С. У мяне ёсць яшчэ адна прапанова.

Старшыня. Пожалуйста.

Пазьняк З.С. Мне вельмі шкада, што зала прыняла такое рашэнне. Мы пачакаем. Але ў мяне ёсць іншая прапанова. У сувязі з тым, што дакументальна засведчана аб падтрымцы хунты Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР спадаром Дземянцеем і яго Намеснікам Шаладонавым я прапаную даручыць гэтае пасяджэнне весці Першаму намесніку, а не Старшыні Вярхоўнага Савета, пытанне аб якім будзе пастаўлена на гэтай сесіі. (Апладысменты). Прашу паставіць на галасаванне гэтую прапанову.

Старшыня. Мы все здесь занимаемся законотворчеством, и я хочу попросить вас выносить решения соответствующим образом. Просил бы народных депутатов высказаться о том, кому поручить

вести заседание.

Пожалуйста, пятый микрофон.

Лукашэнка А.Р. (Шклоўская выбарчая акруга № 310, Магілёўская вобласць). Уважаемые члены Верховного Совета! То, что я скажу сейчас, -- это не спонтанно возникло, я после 20 августа очень много думал над этим, и поскольку это не противоречит тому вопросу, который сейчас поднял народный депутат Позняк, я хотел бы сказать следующее.

Уважаемый Николай Иванович, вы помните заседание Президиума 20 августа, когда я вам задал вопрос? Я повторю его. Почему вы, будучи соратником Президента Горбачева, в трудный для него момент продали этого человека? Дайте, пожалуйста, Вы, прокурор Тарнавский, министр юстиции Дашук и товарищ Ширковский правовую оценку случившемуся в Москве. Суть вашего ответа /у нас это записано/ сводилась к тому, что то, мол, что произошло, было согласовано с Президентом и... неужели вы не понимаете, что коль тот так настырно выдвигал Янаева, иначе быть не могло. Вы твердо заявили о том, что Президент серьезно болен.

В связи с этим я прошу вас как человека потерявшего, может быть, многое, но оставившего у себя мужество, уйти сегодня, не начиная сессии, в отставку. (Аплодисменты). Не надо аплодисментов, товарищи. Это рабочая обстановка.

Второе. Уважаемый Вячеслав Францевич, Вы являетесь членом Бюро Компартии Белоруссии. Вы знаете, какую позицию заняло Бюро и руководство партии. Вы, таким образом, взяли на себя жесточайшую ответственность за поддержку банды. Поэтому учитывая это и то, что ваши органы и Вы обратились на места, выполняя постановление номер один хунты, и начали собирать те данные, которые от Вас потребовали, Вы также не имеете морального права /да и не только морального/ находиться во главе нашего Правительства. Я бы попросил Вас найти мужество и вместе с Дементеем и теми, кто присутствовал тогда на бюро и кто поддерживал эту банду, уйти в отставку. Я не хочу Вас запугивать и предъявлять ультиматум. Но если сегодня же не будет это сделано, я найду средства /а они уже есть/ для того, чтобы поставить в известность Президента

Горбачева и Президента России Ельцина. Спасибо за внимание.

Старшыня. Третий микрофон, пожалуйста.

Глушкевiч Я.М. (Аршанская-Заводская выбарчая акруга № 168, Вiцебская вобласць). Я не присутствовал, к сожалению, на Президиуме, был в это время в Ленинграде, много знаю о всех злодеяниях банды. Считаю, что надо сейчас организовать прямую трансляцию на республику, на площадь, там люди. И Вы сегодня, Николай Иванович /я Вас давно знаю, я бывший Ваш соратник/, как гражданин должны совершить гражданский мужественный шаг. Вы не должны больше руководить Верховным Советом, это мое глубокое убеждение и мнение оршанцев.

Вчера прошел огромный митинг. Я имею поручение от избирателей, резолюция есть об отставке Вашей, об отставке Президиума и об оставке и отдаче под суд Лукьянова как главного заговорщика. Не хочу больше накалять тут страсти, предлагаю вопрос о трансляции решить сейчас, немедленно. Если у кого-то нет мужества, тогда лучше молча сидеть... Поэтому я предлагаю поименно проголосовать за трансляцию на республику. И прошу Вас убедительно, Николай Иванович, зная Вас 30 лет, решиться на этот мужественный шаг.

Старшыня. Уважаемые народные депутаты, вопросы поставлены серьезные, поэтому нам надо сформировать рабочие органы. Я слово предоставляю Шолодонову Василию Ивановичу, чтобы нам создать секретариат, решить вопрос о трансляции.

Уважаемые товарищи! Наверное надо любого, кого собираемся мы тут казнить, выслушать сначала... (Шум у зале). Если будет такой шум я объявлю перерыв. Я не хочу, чтобы все делалось незаконно. Я в этом участвовать не буду, не буду участвовать в беззаконии. Я ничего не совершил и не вижу никого сегодня в зале, кто совершил. Нужны доказательства. Я всю фальшь, которую вы подгоняете, знаю. Когда вы меня выслушаете, тогда и будете судить. Я с вами разговаривал тогда и сейчас на равных, мне нечего скрывать. Белоруссию не опозорил ни один человек. Всем, что сделано в Белоруссии, можно гордиться. Я скажу, белорусский народ гордится и армией и всеми остальными, кто находился на его территории в

это нелегкое время. Первый микрофон, пожалуйста.

Ганчар В.І. (Васняцоўская выбарчая акруга № 6, г.Мінск). Я думаю, нам не надо дискредитировать действия Верховного Совета в очередной раз, поскольку парадоксы его деятельности уже непостижимы. Есть вещи очевидные в любом правовом государстве. И даже подозрение в антиконституционной деятельности делает абсолютно и автоматически невозможным продолжение деятельности высших руководителей. Поэтому до выяснения результатов деятельности специальной комиссии Верховного Совета и политический, и моральный, и человеческий долг членов Президиума Верховного Совета, Председателя Верховного Совета, его заместителя и всего состава Совета Министров, члены которого являются практически все и членами ЦК, уйти в отставку либо приостановить свою деятельность. Любое голосование по этому вопросу считаю неуместным и абсурдным, если ориентироваться /подчеркиваю/ на обычные правила, существующие в любом правовом государстве. И надо сделать этот нравственный, политический и человеческий шаг.

Старшыня. Я повторяю, товарищи, ничего не произойдет, если мы будем работать, как на митинге, и решать вопросы путем дезинформации. Если надо меня освободить, то освободит Верховный Совет. Четвертый микрофон, пожалуйста.

Качан М.А. (Беларуская рэспубліканская арганізацыя ветэранаў вайны і працы). Уважаемые народные депутаты! Та обстановка, которая царит сейчас у нас в Верховном Совете, ей нет никакого основания. Давайте посмотрим. Все сформированные законно наши органы, работа всех коммунистов на местах обеспечили нормальную работу... (Шум у зале). Я хочу сказать нельзя себя так вести, нужно быть корректными и иметь политическую культуру. Я хочу сказать, что нет оснований нам сегодня вести разговоры по данным вопросам. Вопросы, которые выдвигаются оппозицией, необходимо снять. Президиум, я считаю, принял правильное обращение, своевременное, был обеспечен порядок в республике. Чрезвычайное положение не введено. Все демократические институты действовали. Даже оппозиции БНФ никто не запрещал собирать митинги и

выступать. Поэтому вся демократия в республике обеспечена. Считаю необходимо остановиться действительно на политическом моменте, и сегодня сессию закончить.

Старшыня. Восьмой микрофон, пожалуйста.

Мачуленка М.А. (Ельская выбарчая акруга №207, Гомельская вобласць). Уважаемые коллеги! Я вижу реакцию некоторых депутатов, когда к микрофонам подходят представители оппозиции, и я почувствовал реакцию совершенно противоположную, когда подошли несколько коммунистов. Так вот, я вас приглашаю прислушаться к призыву Президента СССР Михаила Сергеевича Горбачева. (Шум у зале). ... который призвал всех здравомыслящих людей не пользоваться методами хунты. Спокойно, тщательно, взвешенно и доказательно разобраться с ролью каждого органа, каждой структуры, равно как и каждого гражданина и коммуниста. Я считаю, что то, с чего вы пытаетесь сейчас начать, а точнее, сорвать начало сессии -- это позор для нашего Верховного Совета.

И, наконец, вы, пожалуйста, не пользуйтесь преимуществами столичной жизни. Я живу не в Минске, и если кое-кто здесь находился с восемнадцатого, то мы не имели такой возможности, на Президиуме тоже не присутствовали. Почему вы нас лишаете права проанализировать работу Президиума в рабочем порядке? Это во-первых.

Во-вторых, что за давление ,на депутатов? Я тоже вчера встречался в своем Ельском избирательном округе с депутатами. И получил полную поддержку своей деятельности. И сегодня, и вчера я полностью объяснил свою позицию. Так что извините, но нельзя "катить" округ на округ. Депутат на депутата может "катить", это ваше право... Но округ на округ... противопоставлять слои общества никому не позволено. Мы имеем равные мандаты. И, извините за непарламентское выражение, рот затыкать никому не дано право.

Старшыня. Будем заниматься выслушиванием? Тогда сколько мы отведем на это время? До начала сессии? Сессия не открыта еще. Вы не дали открыть сессию. Пятый микрофон. Пожалуйста, Дмитрий Петрович.

Булахаў Д.П. (Магілёўская-Юбілейная выбарчая акруга № 275). Давайте успокоимся, уважаемые народные депутаты. Потому что решать что-то на эмоциях, тем более принимать решения о судьбах республики... Я думаю, что мы сегодня с вами к этому придем все вместе. И еще я один тезис должен напомнить: одно беззаконие не должно рождать второе беззаконие. Мы должны действовать строго в рамках закона. Я понимаю, что есть норма морали, но ответственен за норму морали сам человек. И моральное решение принимать ему самому. Я имею ввиду подачу в отставку.

Что же касается закона, то мы не можем начать работу сессии до тех пор, пока не сформировали ее рабочий орган. Далее в законном порядке мы можем поставить вопрос о доверии любым органам и должностным лицам Верховного Совета и определить очередность его рассмотрения.

Старшыня. Следует прислушаться. Мы бы быстрее двигали сессию, если бы утвердили все то, что положено на сессии, а потом рассмотрели все вопросы, которые будут возникать. Ни один депутат здесь, в зале, не лишается права выступить, высказать свое мнение. Я прошу благоразумно к этому отнестись. Так как нам голосовать нечего. У нас сессия не открыта. Мы же путем митинга не имеем права принимать ни одно решение, незаконно это будет. Первый микрофон, пожалуйста.

Пазьняк З.С. Паважаны Мікалай Іванавіч. Я прашу Вас не загаварваць сесію. Не рабіць такую склоку, якую Вы самі зрабілі. Я прапанаваў прагаласаваць пытанне аб тым, каб адкрыццё сесіі зрабіў Ваш Першы намеснік. Не Вы, і не Ваш намеснік Шаладонаў. І прашу паставіць гэтае пытанне на галасаванне. І другое пытанне. Калега Глушкевіч прапанаваў весці трансляцыю на плошчу, дзе сабраўся народ, трансляцыю па радыё і тэлебачанню. Таксама прашу паставіць гэта пытанне на галасаванне. Пасля вырашэння гэтых пытанняў будзем адкрываць сесію.

Старшыня. В повестке дня они стоят и мы их рассмотрим обязательно. Но возникает вопрос о ведении сессии. Есть предложение, чтобы сессию вел Первый заместитель Председателя Верховного Совета Белорусской ССР Шушкевич Станислав Станиславович. Кто за то, чтобы вел Шушкевич Станислав



(Фота з тэлевізара)

*15. Зянон Пазьняк. Дыскусія „ад мікрафону”.*

Станиславович, как внесено предложение, прошу голосовать. Поименно? Голосуем руками. Предложение принимается. Кто за то, чтобы сессию вел Первый заместитель Председателя Верховного Совета Шушкевич Станислав Станиславович, прошу голосовать. Кто против? Кто воздержался?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 230 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 136 |
| Зарэгістравана | 271 |
| Прагаласавала "за" | 128 |
| Прагаласавала "супраць" | 36 |
| Устрымалася | 39 |
| Усяго прагаласавала | 203 |
| Не галасавала | 68 |

Рашэнне не прынята.

(Спіс дэпутатаў па выніках пайменнага галасавання прыкладаецца).

Не надо смешивать процедуру с отставкой Председателя. Уважаемые народные депутаты, давайте лучше будем голосовать об отставке Председателя. Тогда будет все ясно. Зачем же так. Вот, Станислав Станиславович говорит, что даже для процедуры сегодня не хватает голосов. Пожалуйста, Дмитрий Петрович.

Булахаў Д.П. Мы не открыли еще сессию. Я не понимаю, о чем мы говорим сейчас, о каких голосованиях. Давайте откроем сессию и начнем работать. Решим все вопросы, которые нам необходимы.

Старшыня. Уважаемые народные депутаты. Предоставляю слово Шолодонову Василию Ивановичу по составу секретариата сессии.

Шолодонов В.И. Уважаемые народные депутаты, список состава секретариата у вас есть. Предлагается избрать секретариат из семи человек, председателем -- Позюмко Александра Романовича. Есть ли замечания или другие предложения?

Старшыня. По Постановлению "Аб сакратарыяце нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага скліканния" есть ли замечания? Нет. Я ставлю Постановление на голосование.

Кто за принятие этого Постановления, прошу голосовать. Кто против? Кто воздержался?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 230 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 173 |
| Зарэгістравана | 271 |
| Прагаласавала "за" | 230 |
| Прагаласавала "супраць" | 3 |
| Устрымалася | 4 |
| Усяго прагаласавала | 237 |
| Не галасавала | 34 |

Рашэнне прынята.

Паважаныя народныя дэпутаты, нам неабходна стварыць дэпутацкую камісію для кантролю сістэмы галасавання на нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. Таксама слова мае Шаладонаў Васілій Іванавіч.

Шаладонаў В.І. Проект Постановления по составу этой комиссии вам тоже роздан. Председателем предлагается избрать Алампиева Виктора Петровича. В комиссию входят Андрейченко и Никитин. Нет других предложений и замечаний?

Старшыня. Кто за то, чтобы принять Постановление Верховного Совета Белорусской ССР "Аб дэпутацкай камісіі па кантролю за сістэмай галасавання на нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР дванаццатага склікання", прошу голосовать.

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 230 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 173 |
| Зарэгістравана | 271 |
| Прагаласавала "за" | 247 |
| Прагаласавала "супраць" | 1 |
| Устрымалася | 0 |
| Усяго прагаласавала | 248 |
| Не галасавала | 23 |

Рашэнне прынята.

Паважаныя народныя дэпутаты. За прайшоўшы перыяд у рэспубліцы праведзены выбары двух народных дэпутатаў Беларускай ССР: па Нараўлянскай выбарчай акрузе № 222 Гомельскай вобласці і ад Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы. Слова для даклада аб прызнанні паўнамоцтваў выбраных народных дэпутатаў Беларускай ССР прадастаўляецца намесніку старшыні Мандатнай камісіі таварышу Мацюшэўскаму Валерыю Пятровічу.

Мацюшэўскі В.П. /Палярнянская выбарчая акруга № 70, Мінская вобласць/. Паважаныя народныя дэпутаты! Як вам вядома, у сувязі са смерцю народнага дэпутата Беларускай ССР Еўлашова Дзмітрыя Мікалаевіча 11 жніўня бягучага года праведзены выбары народнага дэпутата БССР па Нараўлянскай выбарчай акрузе № 222. Кандыдатам у дэпутаты па гэтай акрузе быў зарэгістраваны Маркоўскі Мікалай Марцінавіч, начальнік упраўлення Дзяржаўнага камітэта БССР па праблемах ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. З 12968 выбаршчыкаў, унесеных у спісы, прыняло ўдзел у галасаванні 10719 чалавек, што складае 82,6 працэнта. 7999 чалавек, або 74,5 працэнта выбаршчыкаў, прыняўшых удзел у галасаванні, аддалі свае галасы за кандыдата, які балаціраваўся.

16 жніўня гэтага года адбыліся таксама выбары народнага дэпутата Беларускай ССР ад Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы замест склаўшага свае дэпутацкія паўнамоцтвы Шабашова Сяргея Міхайлавіча. Кандыдатам у дэпутаты быў зарэгістраваны Авечкін Аляксандр Пятровіч, інжынер вытворчага аб'яднання "Маналіт", старшыня Віцебскага гарадскога Савета ветэранаў вайны і працы. Са 122 удзельнікаў пленума Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы за кандыдата, які балаціраваўся, прагаласавала 118 чалавек. Супраць -- 4. Заяў аб парушэннях выбарчага заканадаўства ні ў Цэнтральную камісію па выбарах народных дэпутатаў, ні ў Мандатную камісію не паступала. Неабходныя дакументы аб выніках галасавання ў Мандатную камісію прадстаўлены.

На ваша зацвярджэнне ўносіцца наступны праект Пастановы Вярхоўнага Савета: "Разгледзеўшы прадстаўленне Мандатнай камісіі,

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі п а с т а н а ў л я е :

Прызнаць паўнамоцтвы народных дэпутатаў Беларускай ССР Маркоўскага Мікалая Марцінавіча, выбранага 11 жніўня бягучага года ад Нараўлянскай выбарчай акругі № 222 Гомельскай вобласці і Авечкіна Аляксандра Пятровіча, выбранага 16 жніўня бягучага года ад Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы.

Старшыня. Якія будуць заўвагі? Трэці мікрафон.

Навукчык С.І. (Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга № 181). Паважаны прадстаўнік Мандатнай камісіі, адкажыце, калі ласка, на пытанне: ці зарэгістравана афіцыйна арганізацыя ветэранаў у Міністэрстве юстыцыі Беларускай ССР? Бо ў тым выпадку, калі гэтая арганізацыя не зарэгістравана, ніякай размовы пра прызнанне паўнамоцтваў быць не можа, і больш таго, дэпутаты ад гэтай арганізацыі літаральна цяпер павінны спыніць свае дэпутацкія паўнамоцтвы.

Мацюшэўскі В.П. Прабачце, але на гэтае пытанне адказаць не магу, бо не ведаю. На яго адкажа міністр юстыцыі, які прысутнічае на гэтай сесіі.

Глушкевіч Я.М. Я знаю,что в Москве уже принято решение о запрещении всесоюзной ветеранской организации.

Читал я также интервью товарища Овечкина в "Витебском рабочем" и могу сказать, что это интервью человека, который в общем-то чрезмерно настроен против сегодняшнего народа, прокоммунистически, в этом интервью. Прошу это иметь ввиду всех народных депутатов.

Старшыня. Чацвёрты мікрафон.

Кавалёў А.А. (Жлобінская-Чыгуначная выбарчая акруга № 210, Гомельская вобласць). Я, конечно, не могу за председателя комиссии говорить о правомочии Общества ветеранов войны и труда, но все обвинения, которые выдвинуты в адрес Александра Петровича Овечкина... Я сам витебчанин, долгое время работал в Витебске,

рядом с Александром Петровичем Овечкиным. Это человек очень пытливого ума, талантливый инженер, который внес большую лепту в освоение космоса, это Герой Социалистического Труда, это человек, который поставил, построил, организовал огромнейшее производство на Витебщине, которое вносит весомый вклад в развитие всего народного хозяйства страны, а не только Белоруссии. Это человек, который обладает незаурядным умом организатора, человек с большой памятью, человек, который заботился и всегда заботится о людях, я его знаю и могу перед всеми народными депутатами республики, перед своей совестью, перед всеми различными социальными группами, ветеранами, представителями БНФ, творческой интеллигенцией, полностью поручиться за Александра Петровича Овечкина, потому что знаю его как хорошего талантливого инженера, организатора производства и очень хорошего человека.

Старшыня. Пожалуйста, министр юстиции.

Дашук Л.І. /Міністр юстыцыі Беларускай ССР/. Я точно помню, что документы подавались. У нас зарегистрировано больше 200 общественных организаций. Я не знал, что такой вопрос возникнет, эти вопросы у нас курирует заместитель министра, документы подавались. Но, в соответствии с законодательством, установлен срок перерегистрации всех общественных организаций до 1 января 1992 года. И все они имеют юридическую силу независимо от того, прошли они регистрацию или нет. До 1 января 1992 все существующие организации имеют юридическую силу. Если они не зарегистрируются к новому году, значит тогда разговор будет другой. Сегодня, к сожалению, я не смогу, даже, если я поеду в Министерство, взять контрольный журнал, какая это организация, когда зарегистрирована.

Старшыня. Третий микрофон, пожалуйста.

Маісееў Г.Ф. (Наваполацкая-Юбілейная выбарчая акруга № 175, Віцебская вобласць). Учитывая ситуацию, которая сложилась с этой организацией во всесоюзном масштабе, учитывая то, что организация напрямую поддержала путч, я предлагаю до выяснения обстоятельств в отношении этой организаци, ее регистрации или нерегистрации во всесоюзном масштабе, сегодня не голосовать и этот вопрос отложить.

Старшыня. Пятый микрофон, пожалуйста, включите.

Толсцік М.А. (Беларуская рэспубліканская арганізацыя ветэранаў вайны і працы). Товарищи, я хотел бы призвать к разуму. Я один из старейших здесь присутствую. С членом Конституционной комиссии Глушкевичем, мы говорили об этой кандидатуре. Мы же готовим документ... И тут же призываем делать шиворот-навыворот.

Ведь есть Конституция Белорусской республики, есть Закон о выборах. В соответствии с ними , я как член Республиканского Совета ветеранов говорил об этом. Вы сейчас обвиняете всю ветеранскую организацию. Какие у вас есть основания? Нельзя плевать в колодец, из него, может быть, придется самому воду пить. Поэтому я призываю всех товарищей народных депутатов действовать не по чьей-то команде, а все-таки иметь рассудок, голову и спокойствие.

Старшыня. Второй микрофон, пожалуйста.

Андрэеў А.Я. /Народны дэпутат СССР/. Уважаемые народные депутаты! Я являюсь председателем Белорусской Республиканской организации ветеранов войны, труда и Вооруженных Сил.

Первое. Белорусская республиканская организация ветеранов войны, труда и Вооруженных Сил является самостоятельной организацией суверенной республики. Никаких заявлений в поддержку она не делала и текста с заявлениями Всесоюзной организации она не имеет. Только вчера удалось ознакомиться в газете "Московская правда" с этим заявлением, которое было опубликовано только в "Московской правде ".

Второе. Мы категорически не поддерживаем это заявление. Потому что это заявление сделано не Всесоюзной организацией ветеранов войны и труда, не ее руководящим органом, а группой руководителей. И это их мнение. И если мне будет предоставлено слово, я эти вопросы подробно освещу. Поэтому никакого нет основания увязывать то, что в Москве происходит и то, что здесь.

Насколько мне известно, решением мэра Москвы запрещена организация Московского городского Совета ветеранов, а не Всесоюзная организация.

Старшыня. Уважаемые народные депутаты! У мяне ў руках Канстытуцыя Беларускай ССР, і артыкул 84 сведчыць аб тым, што Законам Беларускай ССР "Аб выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР" частка народных дэпутатаў Беларускай ССР выбіраецца ад наступных грамадскіх арганізацый: Беларускай рэспубліканскай арганізацыі ветэранаў вайны і працы, Беларускага таварыства інвалідаў, Беларускага таварыства сляпых, Беларускага таварыства глухіх. Пожалуйста, первый микрофон.

Новікаў Я.В. Все дело в том, что я хочу напомнить вам слова гражданина Яковлева. В России он говорил: давайте помнить о шпане, о тех, кто сейчас начнет отмываться. И вот сегодня у нас на календаре 24 августа. И сегодня ветераны говорят, что они не подписывали все это. Где вы были 21 и 20? Сам факт того, что вы умолчали и не отмежевались -- в нем уже есть состав преступления. Я говорю не как судья, это суд должен решать. Сегодня эта организация запрещена как реакционная. Истинные ветераны сегодня лежат в земле. Сегодня они гниют в деревнях, им лавка один день в неделю хлеб доставляет. Вот истинные ветераны. И пенсия их, извините, не та, которую вы получаете здесь. Вам до ветеранов, как до Луны. И поэтому не подменяйте эти понятия. Вы -- реакция, и давайте называть все своими именами. Я предлагаю голосовать против. (Аплодисменты).

Старшыня. Уважаемые народные депуты, я перейду к голосованию этого Постановления, а сейчас прошу вернуться к одному моменту. Наш секретариат прошу занять свои рабочие места и включить здесь электронную систему голосования.

Уважаемые народные депутаты! Я ставлю на голосование: кто за то, чтобы принять Постановление "Аб прызнанні паўнамоцтваў народных дэпутатаў Беларускай ССР, выбраных 11 і 16 жніўня 1991 года"...

Кто за то, чтобы признать полномочия народного депутата Белорусской ССР Марковского Николая Мартиновича, избранного 11 августа 1991 года от Наровлянского избирательного округа № 222 Гомельской области? Кто против? Кто воздержался?

Выніki галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 230 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 173 |
| Зарэгістравана | 273 |
| Прагаласавала "за" | 243 |
| Прагаласавала "супраць" | 4 |
| Устрымалася | 2 |
| Усяго прагаласавала | 249 |
| Не галасавала | 24 |

Рашэнне прынята.

Дазвольце павіншаваць ад нас усіх Мікалая Марцінавіча і пажадаць творчай работы. (Апладысменты).

Ставится на голосование: Кто за то, чтобы признать полномочия Овечкина Александра Петровича, избранного 16 августа 1991 года от Белорусской республиканской организации ветеранов войны и труда, прошу голосовать. Кто против? Кто воздержался?

Выніki галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 230 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 173 |
| Зарэгістравана | 273 |
| Прагаласавала "за" | 186 |
| Прагаласавала "супраць" | 29 |
| Устрымалася | 14 |
| Усяго прагаласавала | 229 |
| Не галасавала | 44 |

Рашэнне прынята.

Мы сердечно поздравляем Овечкина Александра Петровича и желаем ему успехов в работе.

Уважаемые народные депутаты, нам необходимо решить вопрос о порядке освещения работы внеочередной сессии Верховного Совета Белорусской ССР средствами массовой информации. Слово предоставляется председателю Комиссии по вопросам гласности, средств массовой информации и прав человека Коротчене Ивану Михайловичу.

Каратчэня І.М. (Вілейская сельская выбарчая акруга №57, Мінская вобласць). Уважаемые народные депутаты! Проект Постановления о порядке освещения средствами массовой информации работы внеочередной пятой сессии Верховного Совета Белорусской ССР двенадцатого созыва у вас имеется. Есть ли необходимость его комментировать?

В процессе дополнительного обсуждения сегодня на комиссии по третьему пункту от народного депутата Герменчука поступило предложение. После слов "Советская Белоруссия" вычеркнуть фразу "публиковать доклады и содоклады выступлений народных депутатов БССР", а оставить так: в "Народнай газеце" , газетах "Звязда", "Советская Белоруссия" широко освещать ход работы сессии", дальше по тексту. Других замечаний нет.

Старшыня. Есть предложение принять. Первый микрофон.

Голубеў В.Ф. Калі паважаны Старшыня не ўлічвае тыя прапановы, якія былі з залы, тады я вам падказваю. Была прапанова аб тым, каб арганізаваць прамую трансляцыю на плошчы каля Дома Урада, таму што там зараз стаяць дзесяткі тысяч людзей. Абавязкова гэта трэба зрабіць.

Старшыня. Если у нас техническая служба здесь может докладывать, что там что-то установлено и можно смотреть и слушать, возражений не будет. Потому что мы транслируем на всю республику.

Каратчэня І.М. По второму пункту здесь четко написано: "Государственному комитету Белорусской ССР по телевидению и радиовещанию вести прямую трансляцию работы сессии по радио и телевидению".

Старшыня. Третий микрофон, пожалуйста.

З месца. Я бы вас очень просил, люди на площади просят дать туда трансляцию. Надо, чтобы поддержали нас все.

Старшыня. Если министр связи, комитет или представители присутствуют, прошу связаться. А вообще я попросил бы секретариат наш разобраться. Выделите вы, пожалуйста, своего полномочного

представителя, чтобы этот вопрос был разрешен, и проинформируйте сессию. Возражений не будет, чтобы секретариат довел это дело, пока мы будем вопросы рассматривать. Кто за то, чтобы принять Постановление в целом с поправками и этим предложением? Первый микрофон.

Голубеў В.Ф. Прапанова была: дадаць у другую частку Пастановы -- арганізаваць трансляцыю сесіі на плошчы каля Дома Урада. Ці гэта радыёфікацыя будзе, ці будзе тая машына, ці будзе той аўтобус, які быў у час страйкаў, стаяць і весці трансляцыю на плошчу. Ніякай цяжкасці няма, гэты аўтобус стаіць у двары Дома Урада.

Старшыня. Будут ли возражения? Кто за то, чтобы принять Постановление с предложением, внесенным председателем комиссии, и дополнениями, которые внесли председатель комиссии и депутат Голубев Валентин Федорович? Чтобы мы время не теряли, уполномоченные от секретариата сессии в течение нескольких минут должны выяснить возможность решения этого вопроса или снять его. Мы транслируем заседание во все уголки Белоруссии, и на площади тоже должны транслировать. Никакого вопроса нет, только нужно все технически сделать. Кто за то, чтобы принять Постановление о повсеместной трансляции? Кто против? Кто воздержался?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для голосования | 230 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 273 |
| Прагаласавала "за" | 245 |
| Прагаласавала "супраць" | 0 |
| Устрымалася | 2 |
| Усяго прагаласавала | 247 |
| Не галасавала | 26 |

Рашэнне прынята.

Постановление "Аб парадку асвятлення сродкамі масавай інфармацыі работы нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета дванаццатага склікання" принято.

Паважаныя народныя дэпутаты! 22 жніўня 1991 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР на сваім пасяджэнні разгледзеў

прапанову па павестцы дня і парадку работы нечарговай пятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Слова ад Прэзідыума Вярхоўнага Савета па гэтых пытаннях прадастаўляецца Першаму намесніку Старшыні Вярхоўнага Савета Шушкевічу Станіславу Станіслававічу.

Шушкевіч С.С. (Адоеўская выбарчая акруга №44, г.Мінск). Паважаны Старшыня! Паважаныя народныя дэпутаты! Мы даволі доўга абмяркоўвалі павестку дня нашай нечарговай сесіі і вырашылі прапанаваць яе ў тым выглядзе, у якім яна ёсць у дакументах, што вы атрымалі. Гэта пытанні "Аб бягучым моманце" і "Аб Саюзным дагаворы".

Я хачу сказаць аб парадку дня. Мы б хацелі правесці гэту сесію за адзін дзень, таму што пытанні гэтыя ўсім добра вядомыя і трэба было б рабіць не мітынг, а сесію -- па-дзелавому, дакладна, коратка. І нават мы уносілі прапанову па Рэгламенту, каб выступленні былі 5-мінутныя. Магчыма, толькі прадстаўнікам ад вялікіх груп дэпутатаў можна было б зрабіць нейкія папраўкі, каб выступленне было ў рамках нашага звычайнага Рэгламенту. Вось такая думка Прэзідыума.

Прысутнічаючыя на Прэзідыуме народныя дэпутаты ад апазіцыі прапанавалі ўключыць у павестку дня дадаткова сем пытанняў. У вас ёсць дакументы, якія раздадзены сёння ад імя апазіцыі. Я зачытаю, што гэта за пытанні. Мы на Прэзідыуме паабяцалі, што прадстаўніку апазіцыі будзе дадзена слова з прапановай па гэтых пытаннях.

Старшыня. Ёсць пытанні? Няма. Другі мікрафон.

Герасюк І.М. (Капыльская выбарчая акруга №63, Мінская вобласць). Я здаў у сакратарыят праект Пастановы "Аб неадкладных мерах, выцякаючых са спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР". Гэту Пастанову я аддаў для размнажэння і лічу, што ў парадак дня павінна быць уключана яе прыняцце.

Шушкевіч С.С. Я хацеў бы вас папрасіць аб наступным: фармулёўка першага пункта "Аб бягучым моманце" фактычна ўключае гэта пытанне, таму нічога дадаткова ўключаць не трэба, а дакументы ўжо распаўсюджаны.

Старшыня. Кто за то, чтобы принять за основу? Пожалуйста, первый микрофон. На трибуну, пожалуйста.

Голубеў В.Ф. Ад апазіцыі Беларускага народнага фронту. Паважаныя дэпутаты! Шаноўныя людзі Беларусі! Я хачу зрабіць тое, што да гэтага часу яшчэ не зроблена на гэтай сесіі. Я віншую усіх сумленных людзей Беларусі, усіх сумленных народных дэпутатаў, усе дэмакратычныя рухі, партыі Беларусі, рабочых, іх страйкавыя камітэты, сялянаў, інтэлігенцыю, усіх, хто падтрымаў апазіцыю ў гэты цяжкі час змагання са злачынцамі, з перамогай над фашыстоўска-камуністычнай хунтай. (Апладысменты).

Я дзякую тых людзей, якія прыйшлі і стаяць зараз на плошчы каля Дома Ураду, і хачу выказаць упэўненасць, што калі вас сёння к абеду прыйдзе яшчэ больш, ваша падтрымка для нас вельмі будзе важнай у гэтай зале, таму што вы бачыце па выніках галасавання, большасць якіх людзей сядзіць тут.

Зараз заўвагі апазіцыі да той павесткі дня, якую вынес Прэзідыум Вярхоўнага Савета, і нашыя прапановы. Мы лічым, што тыя два расплывчатыя пытанні, якія пастаўлены Прэзідыумам Вярхоўнага Савета, зроблены спецыяльна для таго, каб сесію ператварыць у гаварыльню і каб нікога не знайсці адказных, каб мы не змаглі даць ацэнку таго, што адбылося ў Беларускай рэспубліцы. Тое, што адбылося за яе межамі, гэта мы ўжо ведаем.

Апазіцыя прапануе першым на сесіі паставіць пытанне аб дзеяннях Старшыні Вярхоўнага Савета БССР у час спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР. Ёсць вельмі шмат дакументаў, якія сведчаць аб тым, што Старшыня Вярхоўнага Савета не даў, адмовіўся даць прынцыповую ацэнку дзейнасці путчыстаў, не адмежаваўся ад іх. Фактычна падтрымаў і выступіў на баку змоўшчыкаў, праігнараваў Канстытуцыю СССР і БССР, Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР, дагаворныя абавязкі па двухбаковых пагадненнях з Расіяй, Украінай і Казахстанам. Мы лічым, што дэпутат Дземянцей не мае зараз права займаць пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі. Аб гэтым сведчаць тыя тысячы зваротаў, якія прыйшлі ў апазіцыю, тыя тэлефонныя званкі, лісты, і тыя людзі, якія зараз стаяць на плошчах рэспублікі.

Другім прапануецца разгледзець пытанне аб дзеяннях членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і службовых асобаў рэспублікі пад час дзяржаўнага перавароту. Атрымалася так, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР ухіліўся пад час путчу ад выканання сваіх прамых функцый. Функцыю каардынатара і змагара за суверэннасць Беларусі ўзяла на сябе апазіцыя. Прэзідыум фактычна садзейнічаў путчу і ўпершыню сабраўся толькі 22 жніўня. Мы прапануем асудзіць дзейнасць тых членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, якія падпісалі сумна вядомую заяву ці зусім не выказаліся, і прапануем ім самім скласці з сябе гэтыя абавязкі.

Мы лічым, што абавязкова неабходна разгледзець пытанне і выказаць недавер, вызваліць ад займаемых пасад Старшыню Савета Міністраў Кебіча Вячаслава Францавіча, які знаходзіўся ў Менску і нават не паказаўся пад час путчу, яго намеснікаў, Міністра юстыцыі Дашука, які аб'явіў, што на тэрыторыі рэспублікі дзейнічае надзвычайнае становішча і ён кіруецца Законам СССР аб надзвычайным становішчы, і праводзіў нараду ў сваім міністэрстве, дзе даваў адпаведныя загады. Таксама такія пытанні павінны быць вынесены ў адносінах да Старшыні Дзяржтэлерадыё Беларусі Сталярова, які спыніў дзейнасць беларускага радыё і тэлебачання, забараніў выхад нават дэпутатам і членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета ў эфір і падпарадкоўваўся дзейнасці путчыстаў і Цэнтральнаму Камітэту Кампартыі Беларусі.

Наступнае пытанне прапануецца аб дзеяннях грамадска-палітычных арганізацый у час спробы дзяржаўнага перавароту. На Беларусі ў гэты час у падтрымку змоўшчыкаў, у падтрымку хунты -- дакладна вядома -- выступіла адна партыя -- Камуністычная партыя Беларусі. Яе кіраўнік спадар Малафееў яшчэ да пачатку перавароту выехаў у Маскву і знаходзіўся там да самога разбору. Як прыйшлі звесткі з Масквы, там ён галасаваў у падтрымку. Калі нават Цэнтральны Камітэт КПСС выказваўся ўжо супраць хунты, ён галасаваў у падтрымку.

Таму прапануецца вынесці на сесію гэтае пытанне і разгледзець наступныя пастановы: аб забароне дзейнасці КПБ -- КПСС на тэрыторыі Беларускай ССР, Пракуратуры БССР узбудзіць крымінальную справу супраць рэспубліканскіх, абласных, раённых

кіраўнікоў КПБ, якія падтрымалі загады арганізатараў дзяржаўнага перавароту. На гэты конт ёсць вялікая прэса, ёсць звароты.

Ёсць прапанова правесці дэпартызацыю органаў дзяржаўнай улады і кіравання Беларусі і нацыяналізацыю маёмасці КПБ -- КПСС. Мы неаднаразова папярэджвалі Вярхоўны Савет, што гэтая партыя можа зрабіць, і гэтая партыя зрабіла. Гэта гэтая партыя кіравала путчам, гэта гэтая партыя стварала на Беларусі ў раёнах камітэты па садзейнню надзвычайнаму становішчу, гэта гэтая партыя папярэджвала ўжо 19-га -- 20-га жніўня сваіх членаў, якія выйшлі з яе саставу, каб вярталіся ў яе лона і плацілі грошы, гэта гэтая партыя перапісвала, ці дэпутат Ціхіня ўвесь час гаварыў аб правах кожнай асобы. А чаму ж вашая партыя папярэджвала тых, хто выйшаў з яе, каб вярнуліся, а то будзе пакаранне? Дзе ж вашае сумленне? Вы абараняеце правы людзей за мяжой, а як вы да нашых людзей адносіцеся? Ёсць прапанова разгледзець гэтае пытанне.

Адно з самых важных пытанняў -- гэта тое, што Кампартыя Беларусі фактычна пад кіраўніцтвам хунты пачала весці кантроль над прэсай, эфірам у гэтыя дні, забараняла выхад прагрэсіўных газетаў. Гэта па яе ўказанню не выпускаліся нават народныя дэпутаты ў эфір. Таму ёсць прапанова прыняць Пастанову Вярхоўнага Савета аб нацыяналізацыі выдавецтва ЦК КПБ, якое было заснавана за грошы дзяржавы, не ведама толькі, чаму яно зараз знаходзіцца ў кіраўніцтва гэтай партыі.

Прапануецца прыняць Пастанову аб наданні статуса канстытуцыйнага Закона Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. Вы пабачылі яшчэ раз, што нельга разлічваць на нейкіх добрых бальшавікоў у Маскве. Мы павінны самі абараняць сваю рэспубліку, сваіх людзей, і толькі тады, калі мы будзем кіравацца гэтай Дэкларацыяй як Асноўным Законам, калі мы выканаем усё тое, што там напісана, мы зможам абараніць наш беларускі народ, каб не было так, як зараз. Прадукцыйнасць працы на Беларусі найвышэйшая па Саюзу, а заработная плата найніжэйшая. Хопіць рабаваць беларускі народ.

Мы лічым, што павінны быць прыняты Закон аб змене артыкула 72 Канстытуцыі /Асноўнага Закона/ Беларускай ССР і сказаць, што на тэрыторыі Беларускай ССР устанаўліваецца вяршэнства

Канстытуцыі Беларускай ССР і законаў Беларускай ССР па ўсіх пытаннях. Заканадаўства Саюза ССР можа дзейнічаць на тэрыторыі Беларускай ССР толькі тады, калі яно не пярэчыць заканадаўству Беларускай ССР.

Выносіцца зноў, пасля гэтага путча, пасля таго, што мы ўсе перажылі, пытанне аб Саюзным дагаворы. Апазіцыя Беларускага народнага фронта выступала супраць падпісання гэтага дагавора. Зараз атрымалася так, што і путчысты, і камуністы як быццам нас падтрымалі. Мы выказваліся за роўны саюз з усімі, за магчымасць нам весці дыялог з любой рэспублікай, з любой дзяржавай. Вы ж, камуністы, хацелі зноў стварыць таталітарную сістэму, каб ваша партыя магла кіраваць усімі. Таму мы прапануем прыняць Пастанову аб Саюзным дагаворы, дзе б гаварылася: у сувязі са спробай дзяржаўнага перавароту ў СССР з боку ваенна-камуністычных структур і выкліканымі імі абставінамі ў грамадстве, адсутнасцю рэальных сродкаў, якія б баранілі дзяржаўны суверэнітэт Беларускай ССР, адкласці вырашэнне пытання аб заключэнні Дагавора аб саюзе суверэнных дзяржаў да прыняцця новай Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Утварэнне структур для абароны дзяржаўнага суверэнітэту рэспублікі, стварэнне новага вышэйшага органа дзяржаўнай улады ў выніку свабодных выбараў на шматпартыйнай аснове.

Другое. Мы прапануем стварыць Камісію Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Беларускай ССР для падрыхтоўкі і падпісання эканамічнага дагавора з рэспублікамі, каб гэта ніяк не пашкодзіла нашаму народу.

Тое, што адбылося, як выкарыстоўвалася армія, КДБ, Міністэрства ўнутраных спраў, каму яно падпарадкоўвалася і як выкарыстоўвалася супраць народаў, вы бачылі. Расійская Федэрацыя зрабіла справу: яна ўзяла на сябе пытанні абароны і нацыянальнай бяспекі, падпарадкавала сабе Міністэрства ўнутраных спраў, перавяла структуры КДБ пад юрысдыкцыю сваёй рэспублікі. Нашыя тры пастановы таксама прапануюць гэта зрабіць, і мы лічым, што гэта трэба зрабіць абавязкова.

Мы таксама лічым абавязковым, каб Генеральны пракурор Беларускай ССР падпарадкоўваўся толькі беларускаму Ураду. Таму




*16. Выступае Валянцін Голубеў.* (Кінакадр)

-23-

прапануецца прыняць Пастанову аб Пракуроры Беларускай ССР, дзе гаворыцца, што для забеспячэння прававой аховы суверэнітэту Беларускай ССР і ў сувязі з тым, што Пракуратура Беларускай ССР не выканала сваіх абавязкаў у час перавароту, вызваліць Тарнаўскага Г.С. ад абавязкаў Пракурора БССР і вынесці на разгляд сесіі пытанне аб назначэнні новага Пракурора Беларускай ССР.

Акрамя таго, мы прапануем сёння прыняць рашэнне, каб на наступнай сесіі Вярхоўнага Савета абавязкова былі разгледжаны наступныя пытанні: аб грамадзянстве Беларускай ССР, Закон аб выбарах у Беларускай ССР, Закон аб альтэрнатыўнай вайсковай службе ў Беларускай ССР, аб стварэнні беларускага войска і аб Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Мы лічым, што толькі з вырашэннем гэтых пытанняў магчыма нармалёвае дэмакратычнае развіццё суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Прасіў бы Сакратарыят даць мне слова, калі будзе абмяркоўвацца пытанне аб дзеяннях Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Дземянцея пад час спробы дзяржаўнага перавароту. Дзякую за ўвагу.

это записано и в Законе "О статусе народного депутата Белорусской ССР".

И последнее. И у Министра внутренних дел республики, и у Председателя Комитета госбезопасности достаточно полномочий и достаточно сил, чтобы в этой ситуации и в этом сложном положении обеспечить должное поддержание общественного порядка. Силы, которыми мы располагаем, приведены в соответствующее состояние готовности. И не надо никому накалять страсти. Есть должностные лица, которым поручены эти задачи решать. Если мы их с Председателем Комитета госбезопасности выполняем нечетко или плохо, ставьте вопрос о нашем служебном соответствии, но коль такое доверие вами оказано нам, коль есть Председатель Совета Министров, которому мы подчиняемся непосредственно, я утверждаю, что мы общественный порядок будем обеспечивать так, как положено. Спасибо за внимание.

Старшынствуючы. Шаноўныя народныя дэпутаты ... Калі ласка, трэці мікрафон.

Бачароў Я.М. (Віцебская-Праудзінская выбарчая акруга № 179). Уважаемый Владимир Демьянович, уважаемые товарищи народные депутаты! По просьбе группы народных депутатов я попросил своего заместителя товарища Попова и народного депутата товарища Тесовца проверить, как организована охрана здания ЦК КПБ. Они мне доложили, что никакой охраны там нет, есть охрана ведомственная, какая была там и до сегодняшнего момента. В здание ЦК они наших представителей не пропустили, только в вестибюль. Предложили пропустить нас и посмотреть, какие работы проводятся с архивом и так далее только с представителем ЦК. Я считаю, что данное положение противоречит Указу Президента и это надо поправить.

Старшынствуючы. Паважаныя народныя дэпутаты! Каб не разгортваць спрэчкі, ёсць прапанова камісіі, узначальваемай народным дэпутатам Грыбам, падрыхтаваць Пастанову Вярхоўнага Савета па гэтаму пытанню. І мы яе паставім на галасаванне. Аб выкананні Указа Прэзідэнта на Беларусі. Першы мікрафон, калі ласка.

Садоўскі П.В. (Алэ.іноўская выбарчая акруга № 46, г.Мінск).

Паважаныя калегі! Тут ёсць у нас юрыдычнае замкнутае кола. Міністр унутраных спраў непасрэдна падпарадкоўваецца таварышу Кебічу, Старшыні Савета Міністраў. Гутарка ідзе аб маёмасці КПБ - - КПСС і ЦК. Паважаны таварыш Кебіч з'яўляецца членам ЦК. Дык вось якое замкнутае кола. Паважаны таварыш Кебіч павінен сказаць, што ён не член ЦК. І таварыш Ягораў сам, па-мойму, член ЦК? Дык разамкніце гэтае кола мне, простаму смяротнаму, беспартыйнаму. Дзякуй.

Старшынствуючы. Калі ласка, Вячаслаў Францавіч.

Кебіч В.Ф. Уважаемые народные депутаты! Совет Министров Белорусской ССР, руководствуясь Законом Белорусской ССР о Совете Министров Белорусской ССР вносит на ваше рассмотрение несколько проектов постановлений Верховного Совета республики. Извините, за неимением времени не все они размножены. Первый проект. О прекращении деятельности политических партий и общественных движений, преследующих политические цели. Зачитываю: "Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР. "Аб спыненні дзейнасці палітычных партый і грамадскіх рухаў, праследуючых палітычныя мэты".

Вярхоўны Савет Беларускай ССР п а с т а н а ў л я е:

1. "Спыніць дзейнасць палітычных партый, грамадскіх рухаў і другіх грамадскіх аб'яднанняў, праследуючых палітычныя мэты ва ўсіх органах дзяржаўнай улады і кіравання, Міністэрстве ўнутраных спраў Беларускай ССР, Камітэце дзяржаўнай бяспекі Беларускай ССР, Пракуратуры Беларускай ССР, судовых установах рэспублікі".

2. Даная Пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця".

Подписи всех членов Президиума, визы всех членов Президиума Совета Министров.

Дальше. "О политической и экономической независимости Белорусской ССР".

"Кіруючыся Дэкларацыяй Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Вярхоўны Савет

Беларускай ССР п а с т а н а ў л я е:

1. Аб'явіць палітычную і эканамічную незалежнасць Беларускай ССР.

2. Перадаць ва ўласнасць Беларускай ССР усе прадпрыемствы, арганізацыі і установы саюзнага падпарадкавання, размешчаныя на тэрыторыі рэспублікі, за выключэннем тых, кіраўніцтва якімі перадаецца згодна з заканадаўствам Беларускай ССР адпаведным органам Саюза ССР.

Савету Міністраў Беларускай ССР тэрмінова прыняць нарматыўныя акты аб парадку перадачы да 1 студзеня 1992 года ўказанай уласнасці ў веданне рэспублікі. У ходзе рэалізацыі данай Пастановы ажыццявіць узаемадзеянне з саюзнымі рэспублікамі па пытаннях, закранаючых іх інтарэсы, забяспечыць нармальнае функцыяніраванне эканомікі і сацыяльнай сферы Беларускай ССР".

Дальше. "О подчиненности правоохранительных органов республики".

"У сувязі з Дэкларацыяй аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР Вярхоўны Савет Беларускай ССР п а с т а н а ў л я е:

1. Перадаць у непасрэднае падпарадкаванне Вярхоўнага Савета Беларускай ССР і Савета Міністраў Беларускай ССР органы Пракуратуры Беларускай ССР, Міністэрства ўнутраных спраў Беларускай ССР і Камітэта дзяржаўнай бяспекі Беларускай ССР.

Устанавіць, што гэтыя органы ў сваёй дзейнасці кіруюцца заканадаўствам Беларускай ССР.

2. Савету Міністраў Беларускай ССР у месячны тэрмін прадставіць у Вярхоўны Савет Беларускай ССР прапановы аб унясенні ў заканадаўчыя акты Беларускай ССР змяненняў, якія вынікаюць з данай Пастановы".

В своем выступлении вчера я подчеркнул, что вопрос о департизации очевиден. Мы не можем допустить того, чтобы под видом политических целей партии и движения влияли на

объективность принимаемых всеми органами власти, управления решений. В равной степени это относится и к правоохранительным органам КГБ, МВД и Прокуратуры. Мы полагаем, что это станет и мощным барьером на пути экстремистских проявлений, не допустит реализации авантюрных решений.

Да, мы в начале строительства своего белорусского государства. И если мы хотим создать правовое государство, если мы хотим дать гарантию белорусскому народу в защите его прав и демократических свобод, мы просим Верховный Совет поддержать даннэе предложение.

Рассчитываем на то, что эти решения поддержит и весь белорусский народ. На основании экономического анализа, с учетом процессов, происходящих в центре и в республиках, мы пришли к твердому убеждению о необходимости принятия Верховным Советом решения о политической и экономической независимости нашей республики. Мы не можем допустить, чтобы растаскивалось то добро, то богатство, которое создавалось на протяжении десятков лет трудом белорусского народа. Мы -- за цивилизованные подходы. Вспомним о том, что созданный экономический потенциал республики -- это результат усилий всех народов СССР, поэтому через экономические соглашения с другими республиками и Центром мы урегулируем отношения с ними с тем, чтобы обеспечить стабильность работы предприятий и их трудовых коллективов.

Сегодня, когда на глазах разрушаются вертикальные связи, мы не можем допустить, чтобы оставить союзные предприятия один на один со своими проблемами и бедами. Всеми своими возможностями республика должна поддержать их.

Сказанное мною вовсе не означает, что этой акцией мы против нового Союза. Строго руководствуясь мнением населения республики о необходимости Союза суверенных государств, мы полагаем, что данные меры являются практическим наполнением Декларации о суверенитете Белорусской ССР, реальным фактом государственности Белоруссии. Мы за то, чтобы еще раз пересмотреть новые подходы к образованию нового Союза.

И в заключение вот еще о чем. Обстановка в обществе

чрезвычайно напряжена. И требуется определенное время, чтобы все правильно поняли то, о чем я докладывал Верховному Совету республики. Поэтому призываю всех граждан нашей республики сохранять спокойствие и дисциплину, порядок и организованность. Данные проекты я вношу на рассмотрение Верховного Совета. Вы можете дополнять их, можете изменять. Здесь может быть что-то, как правильно было сказано, и политически неграмотно, но это уже дело Верховного Совета. Мы в очень короткое время создавали все эти документы. Поэтому я, кажется, и ответил на вопрос товарища Садовского, как я поступаю как член Центрального Комитета.

И последнее, то, о чем здесь говорил Министр внутренних дел. Мною только что (то есть не только мною, но и завизировано членами Президиума) подписано постановление о взятии под охрану, в соответствии, как вы и требуете, зданий всех общественных организаций и всех партий, расположенных на территории республики. (Шум у зале).

Старшынствуючы. Дзякую. Шаноўныя народныя дэпутаты, неабходна параіцца. У нас настойваюць на выступленнях 29 чалавек. Мы павінны вызначыць час. Я буду прадастаўляць слова ў тым парадку, які даў сакратарыят, выкрасліўшы тых, хто не настойвае дзеля выступлення ў спрэчках. Мы павінны вызначыць час, да якога мы будзем абмяркоўваць першае пытанне. Якія будуць прапановы? Калі ласка, чацверты мікрафон.

Гюнтэр Б.Д. (Гомельская-Сельмашаўская выбарчая акруга №190). Уважаемые народные депутаты! Уважаемый Президиум! Я обращаюсь вторично. Вчера присутствующие на нашем заседании представители трудящихся города Минска просили слова в прениях. Повторно просят, там есть записка, подписанная 20 народными депутатами по этому вопросу.

Старшынствуючы. Дзякую. Я хацеў бы вызначыць парадак. Ёсць прапанова закончыць спрэчкі па першаму пытанню ў 14 гадзін і перайсці да галасавання пасля перапынку па праектах пастаноў. Якія ёсць іншыя прапановы? Другі мікрафон.

Крыжаноўскі М.К. (Жодзінская-Аўтазаводская выбарчая акруга № 85, Мінская вобласць). Я па вядзенню нашай сесіі. Я ўчора

запісаўся для выступлення ў спрэчках па гэтаму пытанню. Сёння тут спадар Малафееў сказаў, што ён сёння раніцай запісаўся, і яму ўжо далі слова. Я пратэстую. Гэта знявага дэпутата. Мае правы парушаны. Я ўчора раніцай запісаўся для выступлення ў спрэчках па першаму пытанню...

Шушкевіч С.С. Народны дэпутат Крыжаноўскі, вы запісаны пад нумарам 38. Я хачу растлумачыць Вярхоўнаму Савету, чаму я даў слова (і правільна, мне здаецца, зрабіў) народнаму дэпутату БССР Малафееву. Гэта знак павагі да майго старшыні былога, які аб'явіў яго выступленне. І я проста павінен быў гэта зрабіць. Гэта мой абавязак. Гэта прабачэнне за тое, што тут адбылося. Цяпер я зачытаю спіс, хто ў нас выступае. Так, восьмы мікрафон.

Мачуленка М.А. (Ельская выбарчая акруга № 207, Гомельская вобласць). Уважаемый Станислав Станиславович! Уважаемые коллеги! Ведь мы второй день обсуждаем первый вопрос. Нам предложены варианты по проекту конкретных постановлений. Сейчас Премьер республики тоже от имени Правительства внес конкретные постановления, которые расшифровывают первый вопрос. О каком еще обсуждении надо вести речь? Я предлагаю на голосование поставить мое предложение: перейти к конкретному рассмотрению внесенных проектов. И только по проектам: постатейно, в целом, как угодно, но перейти к принятию постановлений.

Старшынствуючы. Ёсць прапановы. Прапанова першая -- па спісу прадоўжыць спрэчкі да 14 гадзін. І прапанова другая -- перайсці да прыняцця рашэнняў па праектах пастаноў, якія ёсць у народных дэпутатаў. І ёсць прапанова, каб спрэчкі прадоўжыць, і усе выступілі.

Тры прапановы. Пяты мікрафон.

Карпаў А.А. (Бабруйская-Ленінская выбарчая акруга № 284, Магілёўская вобласць). Уважаемые товарищи депутаты! То, что нам сейчас сказал наш Премьер-министр, можно выразить так: в огороде бузина, а в Киеве дядька. Поэтому я предлагаю: немедленно проголосовать Верховному Совету, чтобы поручить Министерству внутренних дел БССР взять под охрану и опечатать все архивы Коммунистической партии Белоруссии на территории республики.

Старшынствуючы. Шаноўныя народныя дэпутаты! Я думаю, што мы не будзем рабіць спрэчак, мы папросім прапанову па гэтаму пытанню ад народнага дэпутата Карпава. Грыбу Мячэславу Іванавічу альбо яго намесніку Папову трэба падрыхтаваць гэта пытанне. Тут няма аб чым спрачацца. Таму я стаўлю на галасаванне: хто за тое, каб працягваліся спрэчкі да 14 гадзін па спісу, які распрацаваны Сакратарыятам? Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 135 |
| Зарэгістравана | 268 |
| Прагаласавала "за" | 87 |
| Прагаласавала "супраць" | 99 |
| Устрымалася | 9 |
| Усяго прагаласавала | 195 |
| Не галасавала | 73 |

Рашэнне не прынята.

Хто за тое, каб спыніць спрэчкі і перайсці да прыняцця праектаў пастаноў, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 135 |
| Зарэгістравана | 268 |
| Прагаласавала "за" | 185 |
| Прагаласавала "супраць" | 17 |
| Устрымалася | 2 |
| Усяго прагаласавала | 204 |
| Не галасавала | 64 |

Рашэнне прынята.

Шаноўны народны дэпутат! Я не стаўлю вашу прапанову, яна альтэрнатыўная. Таму спрэчкі па першаму пытанню спыняюцца. Пераходзім да прыняцця пастаноў. Чацвёрты мікрафон, калі ласка.

Курбаеў У.Д. (Гродзенская-Болдзінская выбарчая акруга № 236). Станислав Станиславович! Я думаю, что еще рано рассматривать эти проекты постановлений, потому что поступали

предложения депутатов, которые вносили дополнения. И надо, чтобы они были размножены и депутаты имели бы возможность ознакомиться с этими проектами.

Старшынствуючы. Добра. Што вы прапануеце?

Курбаеў У.Д. Я предлагаю сделать перерыв и после перерыва собраться.

Старшынствуючы. Шаноўныя народныя дэпутаты! Ёсць такая прапанова -- зрабіць цяпер перапынак. Падчас перапынку камісія і Прэзідыум Вярхоўнага Савета разгледзяць парадак разгляду пытанняў дзеля галасавання.

Аб'яўляецца перапынак да 15 гадзін.

ПАСЛЯ ПЕРАПЫНКУ

Старшынствуючы. Паважаныя народныя дэпутаты! Працягваем наша пасяджэнне. Я прашу народных дэпутатаў заняць свае месцы і падрыхтавацца да рэгістрацыі. Прашу ўключыць сістэму рэгістрацыі. Прашу народных дэпутатаў зарэгістравацца. Прысутнічае 260 народных дэпутатаў. Кворум у нас ёсць. Мы працягваем нашу работу. Я прашу тых, хто падыдзе пасля рэгістрацыі, зарэгістравацца тут, каля камп'ютэра. Калі ласка, першы мікрафон.

Садоўскі Л.В. Паважаныя народныя дэпутаты! Паважаны Старшыня! Я хацеў бы прасіць, каб мы арганізавалі нармальную перадачу пра тое, што ў нас адбываецца на сесіі, на саюзныя сродкі масавай інфармацыі. Я павінен сказаць, што наш карэспандэнт таварыш Жук увесь гэты час, будзем так гаварыць, даваў даволі неаб'ектыўную інфармацыю пра рэспубліку. Дарэчы, хачу сказаць пра тыя інтэрв'ю, якія ён браў, у прыватнасці, учора. Народны дэпутат Булахаў і я, мы давалі інтэрв'ю. Я разумею, што ў Маскве ёсць рэдакцыя, але ў журналіста павінны быць сумленне і аўтарскае права.

Я не ведаю, як тут вырашаць? Сталярова вызвалілі ад пасады ці не, не ведаю. Ва ўсякім разе, трэба, каб асвятленне было нармальнае. Калі Жук працуе, няхай ён тады неяк Вярхоўнаму Савету паведамляе, што ён дае.

Старшынствуючы. Шаноўныя народныя дэпутаты! Мы стварылі рэдакцыйную камісію, і ёсць просьба да гэтай камісіі звярнуць увагу на заяву члена Прэзідыума народнага дэпутата Садоўскага. Калі ласка, другі мікрафон.

Слабчанка С.І. (Баранавіцкая-Кастрычніцкая выбарчая акруга № 111, Брэсцкая вобласць). Я хотел бы узнать судьбу Постановления "О государственной независимости", которое было размножено сегодня утром. Я сам лично видел, что размножено. Почему до сих пор оно не роздано депутатам? (Шум у зале). Это роздано то, что подготовил Совет Министров. Я имею в виду то, что подготовлено оппозицией. (Шум у зале).

Старшынствуючы. Я прашу пытанні такога плана ўдакладняць з сакратарыятам, таму што ніякіх дыскрымінацыйных мер па размнажэнню дакументаў у адпаведнасці з Рэгламентам не было, няма і не будзе.

Я падкрэсліваю, удакладніце, каму перадалі. Хто перадаваў дакументы ў сакратарыят? (Шум у зале). Ёсць, так. Так што не трэба ўздымаць пытанні, якіх не існуе.

Шаноўныя народныя дэпутаты! Мы пераходзім да таго, каб прыняць рашэнні па пункту 1 нашай павесткі дня. У вас на руках ёсць праект Пастановы Вярхоўнага Савета "Аб бягучым моманце", унесены Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР. У вас таксама ёсць праект Пастановы "Аб дзеяннях Старшыні Вярхоўнага Савета БССР у час спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР", прапанаваны БНФ. Я аднoшу яго таксама да гэтага пытання, лічу нават гэта пытанне першым. І ёсць праект Пастановы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР "Аб дзеяннях членаў Прэзідыума", таксама прапанаваны апазіцыяй БНФ. Ці, можа, будуць зняты якія-небудзь прапановы? (Шум у зале).

Тут мне здаецца, што лагічна было б зняць праект другой Пастановы аб дзеяннях Старшыні Вярхоўнага Савета. Не будзе з боку членаў апазіцыі нейкіх перашкод таму, каб мы так зрабілі? Будзем галасаваць? (Шум у зале).

Я паўтараю. Мы згрупавалі пытанні па першаму пункту так, як у дужках пералічаны. Я б назваў гэта пункт 1.1. І параіліся ў

Прэзідыуме, як будзем зараз прымаць Пастанову.

Да гэтага пункта 1.1 маюць дачыненне тры праекты Пастаноў -- Пастанова, унесеная Прэзідыумам Вярхоўнага Савета, "Аб бягучым моманце" і два праекты пастаноў, унесеныя апазіцыяй: аб Старшыні і аб членах Прэзідыума, аб дзеяннях у час путчу.

Мы ўсе гэтыя пастановы будзем галасаваць ці апазіцыя здымае якую-небудзь з іх? (Шум у зале). "Аб дзеяннях Старшыні Вярхоўнага Савета БССР у час спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР". Здымаем, згода? Згода. Па Прэзідыуму мы галасавалі, мне здаецца, што гэта пытанне не існуе ўжо. Згода? (Шум у зале). Няма згоды? Добра, тады будзем разглядаць.

Значыцца, я прашу выказаць свае адносіны да праекта, унесенага Прэзідыумам Вярхоўнага Савета БССР. Можам яго прыняць за аснову? (Шум у зале). Чытаць? Добра, я буду чытаць.

Я тады лепей запрашу Булахава Дзмітрыя Пятровіча на трыбуну, старшыню Камісіі па заканадаўству. Ён будзе чытаць гэту Пастанову і даваць адказы на тыя пытанні, якія ўзнікнуць. Таму што гэты праект Пастановы разгледжаны Камісіяй. Давайце я прачытаю прэамбулу.

"Дзяржава і рэспубліка ў апошнія дні перажылі складаны палітычны перыяд.

Увёўшы ў зман насельніцтва дзяржавы лжывай інфармацыяй аб немагчымасці па стану здароўя выканання Гарбачовым М.С. абавязкаў Прэзідэнта СССР, так званы Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу ў СССР /ДКНС/ захапіў уладу. Блакіравалася дзейнасць органаў дзяржаўнай улады і кіравання, у асобных мясцовасцях было ўведзена надзвычайнае становішча, рад рэгіёнаў кантраляваўся войскамі. На працягу некалькіх дзён пад пагрозай знаходзіліся заваяваныя ў перыяд перабудовы дэмакратычныя пераўтварэнні, правы і свабоды грамадзян. Многімі перадавымі сіламі грамадства, палітычнымі дзеячамі і грамадзянамі такая сітуацыя была ацэнена адмоўна, яны рашуча выступілі за аднаўленне ў дзяржаве канстытуцыйнага парадку.

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай

Рэспублікі п а с т а н а ў л я е:

1. Асудзіць антыканстытуцыйныя дзеянні членаў ДКНС і падтрымаўшых іх грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання. Стварыць Часовую камісію Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па ацэнцы іх дзеянняў на тэрыторыі рэспублікі ў саставе 7 народных дэпутатаў Беларускай ССР".

/Ніякі склад канкрэтна не прапаноўваецца Прэзідыумам, вырашана гэта вызначыць тут/.

"Часовай камісіі прадставіць справаздачу аб праведзенай рабоце да чарговай сесіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

2. Адзначыць, што Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР звярнуўся да беларускага народа з заклікам аб захаванні спакою. У процівагу заяве і пастанове № 1 самазванага ДКНС Прэзідыум Вярхоўнага Савета Беларускай ССР пацвердзіў, што на тэрыторыі рэспублікі захоўваюць сілу заканадаўчыя акты Беларускай ССР, працягваюць дзейнічаць законна сфарміраваныя ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларускай ССР структуры дзяржаўнай улады і кіравання, але не даў дакладнай палітычнай ацэнкі неканстытуцыйнасці дзеянняў гэтага камітэта.

3. Лічыць мэтазгодным ажыццявіць дэпартызацыю органаў дзяржаўнай улады і кіравання, праваахоўных, судовых органаў, органаў юстыцыі і ваеннаслужачых.

Даручыць камісіям Вярхоўнага Савета Беларускай ССР па заканадаўству, па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю, па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека, па пытаннях работы Саветаў народных дэпутатаў і развіцця самакіравання падрыхтаваць адпаведныя прапановы па змяненню дзеючага заканадаўства.

4. Заклікаць усе грамадскія аб'яднанні, працоўныя калектывы, усіх службовых асоб і грамадзян Беларускай ССР да кансалідацыі сіл па умацаванню канстытуцыйнага ладу, законнасці, правапарадку, да недапушчэння ў далейшым утварэння неканстытуцыйных органаў улады і кіравання. Адзначыць, што надзвычайныя падзеі, якія адбыліся, не павінны паслужыць прычынай да разладу паміж людзьмі,

да звядзення палітычных рахункаў.

5. Звярнуцца з заклікам да народных дэпутатаў СССР ад Беларускай ССР прыняць удзел у рабоце нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета СССР, З'езда народных дэпутатаў СССР і даць прынцыповую ацэнку дзеянням органаў дзяржаўнай улады і кіравання СССР у сувязі са стварэннем Дзяржаўнага камітэта па надзвычайнаму становішчу ў СССР".

Другі мікрафон.

Герасюк І.М. (Капыльская выбарчая акруга № 63, Мінская вобласць). Паважаны Станіслаў Станіслававіч, нельга так ставіць пытанне, што ў нас быццам бы ёсць адзін праект. Ёсць мой праект, які цалкам уключае гэтыя пункты, і перад тым як галасаваць гэты праект, людзі павінны ведаць, які праект ёсць яшчэ Там ёсць і аб маёмасці КПБ, і аб спыненні дзейнасці, і гэтак далей. Гэтыя праекты павінны ісці разам, разам галасавацца. А то, быццам бы, такое становішча, што толькі ваш праект, і больш нічога няма.

Булахаў Д.П. Действительно, имеется ваш проект. Есть еще ряд проектов, которые в принципе совпадают с проектом, внесенным Комиссией по законодательству. Есть проект депутатской оппозиции. У Станислава Станиславовича они сгруппированы. Мы сейчас говорим об оценке деятельности, я так понимаю.

Давайте так. Предложен вариант по оценке деятельности Президиума, должностных лиц и действий Верховного Совета. В данной ситуации это единственный проект, который от начала и до конца отвечает идее разрешения этого вопроса. Поэтому он сейчас и обсуждается. Потому что вопросы о собственности, департизации включены в повестку дня, у вас есть по несколько постановлений по каждому из них.

Старшынствуючы. Шаноўны народны дэпутат Герасюк, ёсць ваша прапанова. Яна будзе пастаўлена на галасаванне так, як і ўсе астатнія. Але мы імкнуліся згрупаваць, мы гэтым займаліся ў перапынку.

Калі ласка, трэці мікрафон.

Навумчык С.І. (Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга № 181). Паважаны Станіслаў Станіслававіч, паважаны Дзмітрый Пятровіч! У прэамбуле ёсць сказ: "Многімі перадавымі сіламі грамадства, палітычнымі дзеячамі, грамадзянамі такая сітуацыя была ацэнена адмоўна, яны рашуча выступілі за аднаўленне ў дзяржаве канстытуцыйнага парадку". Я ўсё ж думаю, што такі палітычны орган як Вярхоўны Савет павінен даваць дакладныя палітычныя ацэнкі. Наколькі я ведаю, Беларускі народны фронт, Сацыял-дэмакратычная грамада, Аб'яднаная партыя, Сялянская партыя і іншыя выступілі супраць дыктатуры. У нас была толькі адна палітычная партыя, якая ў асобе Бюро ЦК падтрымала гэта, -- Камуністычная партыя. Я хацеў бы, каб гэта было сказана дакладна. Гэты дакумент палітычны, і трэба тут дакладнасць захоўваць.

Старшынствуючы. Першы мікрафон.

Антончык С.А. (Ясенінская выбарчая акруга № 17, г.Мінск). Я хотел бы попросить Вас, Станислав Станиславович, я не знаю, какое мы будем Постановление принимать, но, я смотрю, и в одном, и во втором, и в третьем: лічыць мэтазгодным ажыццявіць дэпартызацыю органаў дзяржаўнай улады і кіравання, праваахоўных судовых органаў, органаў юстыцыі і ваеннаслужачых. Патрэбна абавязкова ўнесці пытанне аб дэпартызацыі прадпрыемстваў, бо гэта будзе стыхійна праходзіць.

Булахаў Д.П. Позвольте я возьму на себя смелость от Президиума внести предложение, хотя я ни с кем его не согласовывал. Этот вопрос надо решать в рамках отдельного постановления. Несколько вариантов такого постановления имеется. В рассматриваемом документе третий пункт надо исключить. Это отдельное постановление. Я надеюсь, что мы там и решим.

Старшынствуючы. Трэці мікрафон, калі ласка.

Грыб М.І. (Віцебская-Савецкая выбарчая акруга № 178). Я по первому пункту вношу предложение: "Асудзіць антыканстытуцыйныя дзеянні членаў ДКНС і падтрымаўшых іх грамадска-палітычных утварэнняў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання". Я думаю, што тут трэба дадаць: "службовых асоб і асобных грамадзян".

Булахаў Д.П. Я думаю, что никто не будет возражать. Добавим слова: "отдельных должностных лиц и граждан". Мы не будем судить граждан. Мы даем политическую оценку. Мы не осуждаем конкретных лиц. Уголовная, административная, правовая ответственность -- это все в рамках закона. Мы даем политическую оценку. Граждане, которые поддержали, должны знать, что им Верховным Советом дана политическая оценка. И причем, обратите внимание, здесь нет точки, здесь нет указаний Белорусской ССР, поскольку как в преамбуле, так и в первой статье речь идет о всех лицах, органах, учреждениях и гражданах, в том числе и на территории всей страны.

Мы даем оценку. Что касается конкретного разбора и разбирательства, то это будет в Белоруссии. И это тоже в этом пункте есть.

Старшынствуючы. Трэці мікрафон, калі ласка.

Саковіч В.А. (Гарадоцкая выбарчая акруга № 109, Віцебская вобласць). Станислав Станиславович, я предлагаю такой порядок. Взять за основу этот вариант в целом, а потом по каждому пункту... А затем, если будут замечания по каждому пункту, голосовать их. Ну зачем мы сейчас рассматриваем каждый вопрос?

Старшынствуючы. Давайце так прагаласуем. Першы мікрафон, калі ласка.

Зданевіч Л.У. (Машэраўская выбарчая акруга № 39, г.Мінск). Уважаемые народные депутаты! Я пытаюсь понять смысл преамбулы и никак не могу этого сделать. Что такое: "увёўшы ў зман насельніцтва дзяржавы лжывай інфармацыяй"? Обмануть может любая газетная публикация. Но, извините, для чего же существуют государственные органы? Мы ссылаемся на обман населения. Как понимать: "захапіў уладу", значит, мы констатируем, что этот самозванный комитет захватил власть. А где же мы, где законная власть, где Конституция? Значит, вы, Президиум, констатируете, что он все же захватил власть. Значит, вы действительно не справились со своими обязанностями. Если даже в постановлении вы это констатируете.

Старшынствуючы. Ваша прапанова?

Зданевіч Л.У. Я считаю, преамбула никуда...

Старшынствуючы. Гэта не пярэчыць нашаму галасаванню. Будзем па частках галасаваць. У тым ліку і за прэамбулу.

Зданевіч Л.У. Так она просто подтверждает преступность деятельности Президиума. Я с удовольствием восприму, если здесь большинство примет такую преамбулу. Это будет констатировать действительную ситуацию.

Булахаў Д.П. Президиум предложил. Прекрасно, если вы поддерживаете...

Зданевіч Л.У. Второй пункт.

Старшынствуючы. Не, давайце мы цалкам, ёсць прапанова цалкам прымаць за аснову.

Зданевіч Л.У. Нельзя принимать в целом за основу такой документ. Третий пункт. Как понимать "считать целесообразным"? Разве это постановление? А что же взамен тогда?

Булахаў Д.П. Отдельное постановление.

Зданевіч Л.У. Одним словом, я считаю, что подобное постановление за основу принимать нельзя.

Старшынствуючы. Так, ёсць дзве прапановы. Калі ласка, першы мікрафон.

Пазьняк З.С. (Ангарская выбарчая акруга № 9, г.Мінск). У мяне ёсць канкрэтныя прапановы па змене тэксту. Па прэамбуле. Трэці радок: "Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу ў СССР ... захапіў уладу". Прапаную напісаць: "Дзяржаўны камітэт па надзвычайнаму становішчу ажыццявіў спробу захопу ўлады".

Булахаў Д.П. Я не возражаю, но давайте или примем, или не примем.

Старшынствуючы. Калі пайшло абмеркаванне, отавім так. Гэта абмеркаванне не мае сэнсу, калі мы ідзем не па частках. Хто за тое, каб прыняць гэты праект пастановы за аснову, прашу

галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 267 |
| Прагаласавала "за" | 226 |
| Прагаласавала "супраць" | 7 |
| Устрымалася | 7 |
| Усяго прагаласавала | 240 |
| Не галасавала | 27 |

Рашэнне прынята.

Па прэамбуле. Я думаю, што мэтазгодна прыняць такую праўку народнага дэпутата Пазьняка: "ажыццявіў спробу захопу ўлады". Фактычна так. Згодны з такой праўкай? Калі ласка, пяты мікрафон.

Сяндзянава Г.Г. (Навагрудская гарадская выбарчая акруга № 262, Гродзенская вобласць). Здесь уже раздавались предложения убрать аббревиатуру и не портить белорусский язык этим словом.

Старшынствуючы. Давайце пагадзімся з гэтым. Гэта было надрукавана да таго, як было ўнесена. Я думаю, што тут можна ўдакладніць, і ў тым ліку абрэвіятуру зняць.

Булахаў Д.П. Мы договорились, что в белорусском варианте "ДКНС" не будет. Будет "ГКЧП" и в белорусском варианте.

Старшынствуючы. Калі ласка, першы мікрафон.

Зданевіч Л.У. Уважаемые депутаты, я делал замечание по поводу начала преамбулы, где написано: "увёўшы ў зман насельніцтва дзяржавы лжывай інфармацыяй". Я предлагаю изменить эту формулировку и написать: "увёўшы ў зман Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР". Гэта будзе больш дакладна і адпавядаць сітуацыі.

Старшынствуючы. Шаноўныя народныя дэпутаты! Я вельмі прашу вас аб наступным. Я не буду ставіць вашу прапанову на галасаванне. Першы мікрафон.

Садоўскі П.В. Я галасаваў супраць гэтай прэамбулы, калі

поиняць члены Прэзідыума. Паважаныя калегі дэпутаты! Калі вы прагаласуеце за словы "увёушы ў зман", то мы будзем нагадваць такую жанчыну, якая кажа, што яна вельмі цнатлівая. Ёсць жа Канстытуцыя. Не было ж ні заявы Прэзідэнта, што ён хворы, ні сведчання дактароў, ні заявы прэс-сакратара. Што вы выстаўляецеся людзьмі нейкімі прастакаватымі, кажучы па-народнаму? "Звялі ў зман". Гэта ж сорам. Думайце, што слова значыць.

Старшынствуючы. Калі ласка, шосты мікрафон.

Заблоцкі У.М. (Някрасаўская выбарчая акруга № 35, г.Мінск). Уважаемые народные депутаты! Этот текст нельзя принимать. Обманулся тот, кто хотел обмануться. А население не обманулось. Это обманулся Президиум, потому, что он очень хотел обмануться.

Старшынствуючы. Шаноўны Уладзімір Міхайлавіч! Я б хацеў усёж-такі ўдакладніць, што частка Прэзідыума. Але многія абманулісяя. Давайце так галасаваць: пісьмовых правак не было, раздадзена папера, я стаўлю прэамбулу на галасаванне. Я думаю, што лагічнае ўдакладненне зроблена народным дэпутатам Пазьняком. Ёсць выключаючая прапанова -- прэамбулу зняць. Хто за тое, каб прэамбулу зняць, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 270 |
| Прагаласавала "за" | 110 |
| Прагаласавала "супраць" | 66 |
| Устрымалася | 27 |
| Усяго прагаласавала | 203 |
| Не галасавала | 67 |

Рашэнне не прынята.

Шосты мікрафон.

Шачак В.М. (Слуцкая-Маладзёжная выбарчая акруга № 84, Мінская вобласць). Станіслаў Станіслававіч! Можна вырашыць канфлікт, запісаўшы: "выкарыстаўшы інфармацыю аб немагчымасці" і далей па тэксту. Звялі, не звялі -- гэта справа кожнага чалавека.

"Выкарыстаўшы лжывую інфармацыю" --гэта будзе ацэнка дзеянняў камітэта.

Старшынствуючы. Шаноўныя народныя дэпутаты! Ці мы знаходзімся на мітынгу, ці мы на Вярхоўным Савеце? Раздадзены праект прапановы, існуе Рэгламент. Ніякіх прапаноў не было. Я не магу так працаваць. Таму я ў якасці выключэння стаўлю вашу прапанову: "увёўшы ў зман Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР." Калі ласка, хто за гэтую папраўку, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 270 |
| Прагаласавала "за" | 54 |
| Прагаласавала "супраць" | 88 |
| Устрымалася | 14 |
| Усяго прагаласавала | 156 |
| Не галасавала | 114 |

Рашэнне не прынята.

Стаўлю на галасаванне прэамбулу з удакладненнем народнага дэпутата Пазьняка. Хто за прэамбулу з гэтым удакладненнем, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 270 |
| Прагаласавала "за" | 212 |
| Прагаласавала "супраць" | 21 |
| Устрымалася | 6 |
| Усяго прагаласавала | 239 |
| Не галасавала | 31 |

Рашэнне прынята.

Пераходзім да першага пункту. Якія ёсць заўвагі? Калі ласка, першы мікрафон.

Пазьняк З.С. Па першаму пункту я прапаную заияніць у другім радку словы "грамадска-палітычных утварэнняў", на "арганізацыяў КПБ". Будзе гучаць такім чынам: "асудзіць канстытуцыйныя дзеянні членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх арганізацыяў КПБ". Далей па тэксту і закончыць так: пасля слова "кіраванне" дадаць: "і афіцыйных службовых асоб". Поўнасцю гучыць так: "асудзіць антыканстытуцыйныя дзеянні членаў ГКЧП і падтрымаўшых іх арганізацыяў КПБ, органаў дзяржаўнай улады і кіравання і афіцыйных службовых асоб".

Старшынствуючы. Прапанова эразумелая, можам мы на слых успрыняць гэтую прапанову? Можам. Ёсць складанасці, шаноўны Зянон Станіслававіч. Я сэнсоўна з вамі згодзен, але я не магу паставіць на галасаванне, няма вашай пісьмовай прапановы. Рэгламент парушаем і не так проста гэта ўспрыняць. Калі ласка, першы мікрафон.

Вярцінскі А.І. Паважаныя калегі! Першы абзац, дзе запісана "асудзіць" -- гэта махаць кулаком пасля бойкі. Людзі, аб'яўлены дзяржаўнымі злачынцамі і прыцягнуты да судовай адказнасці. Таму трэба адразу да першага абзаца і фармуліраваць так: "стварыць Часовую камісію Вярхоўнага Савета", і далей па сэнсу.

Старшынствуючы. Фактычна ёсць дзве прапановы. Прыняць у фармулёўцы, якую прапанаваў Прэзідыум. І другое: прыняць, выключыўшы першы абзац, і пачаць фарміраваць камісію. Калі ласка, другі мікрафон.

Станкевіч У.М. (Мядзельская выбарчая акруга № 78, Мінская вобласць). Уважаемые народные депутаты! Во-первых, это политический документ и это можно оставить. У нас есть дальше вопросы, касающиеся должностных лиц, и там включить... Это первое.

Второе. Станислав Станиславович, я не могу с вами согласиться, когда вы ссылаетесь на Регламент. Дело в том, что когда идет очередная сессия, тогда существуют жесткие рамки Регламента. Эта сессия перегружена чрезвычайными документами. И все народные депутаты, действительно, не могли ознакомиться с каждым документом. А документы политической важности. Поэтому,

все-таки надо прислушиваться иногда не к Регламенту, а к высказываниям тех, кто выступает с места.

Пазьняк З.С. Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Усё-такі тут няма ніякай складанасці, таму што я прапаную сэнсавую замену. "Грамадска-палітычных утварэнняў" замяніць на "арганізацыяў КПБ". Таму што ў нас няма фактаў аб беларускай падтрымцы, толькі падтрымала КПБ.

Старшынствуючы. Я пастаўлю на галасаванне тры прапановы. Больш абмяркоўваць не будзем. Першая прапанова: прыняць варыянт у рэдакцыі, якую прапанаваў Прэзідыум. Толькі дадаць словы: "службовых асоб і грамадзян." Другі варыянт. Замяніць словы: "грамадска-палітычных утварэнняў" словамі "арганізацыяў КПБ". Трэці варыянт -- зняць першы абзац.

Апошняя прапанова выключае ўсе папярэднія, я пачынаю галасаванне з яе. Цяпер, калі ласка, па матывах. Пяты мікрафон.

Карпаў А.А. Я хотел бы возразить уважаемому депутату Зенону Станиславовичу Позняку, потому что мы не можем с полной достоверностью утверждать, что на территории Белоруссии не было общественных и других организаций, не поддержавших путчистов, поэтому предлагаю оставить вариант Президиума.

Старшынствуючы. Калі ласка.

/Дэпутат не назваўся/ Я по мотивам. Обратите внимание на саму направленность первой части. Я повторюсь: речь шла не только о Белоруссии, но и обо всей стране.

Старшынствуючы. Ітак, першае. Хто за тое, каб прыняць першы пункт без першага абзаца, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 270 |
| Прагаласавала "за" | 96 |
| Прагаласавала "супраць" | 71 |

| | |
|---|---|
| Устрымалася | 21 |
| Усяго прагаласавала | 188 |
| Не галасавала | 82 |

Рашэнне не прынята.

Прапанова не прымаецца. Хто за тое, каб прыняць у фармулёўцы Прэзідыума з даданнем слоў "службовых асоб і грамадзян", прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 270 |
| Прагаласавала "за" | 199 |
| Прагаласавала "супраць" | 13 |
| Устрымалася | 14 |
| Усяго прагаласавала | 226 |
| Не галасавала | 44 |

Рашэнне прынята.

Шаноўны Зянон Станіслававіч, я магу не ставіць на галасаванне вашу прапанову? Трацім час, вы настойваеце? Добра. Хто за тое, каб прыняць у фармулёўцы, прапанаванай Зянонам Станіслававічам? Гэта значыць замяніць словы "грамадска-палітычных утварэнняў" словамі "арганізацыяў КПБ" прашу галасаваць. Хто за? Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Вынікі галасавання:

| | |
|---|---|
| Кворум для галасавання | 232 |
| Кворум для прыняцця рашэння | 174 |
| Зарэгістравана | 270 |
| Прагаласавала "за" | 78 |
| Прагаласавала "супраць" | 37 |
| Устрымалася | 16 |
| Усяго прагаласавала | 131 |
| Не галасавала | 139 |

Рашэнне не прынята.

Старшынствуючы. Не прымаецца. Цяпер пераходзім да фарміравання складу камісіі, якой мы даём адпаведныя даручэнні. Першы

мікрафон.

Зданевіч Л.У. (Машэраўская выбарчая акруга № 39, г.Мінск). Уважаемые депутаты, многие из нас считали, что голосование ведется поименно, сейчас я узнал из Президиума, что это не так. Я считаю, что все решения на этой сессии мы должны принимать поименно и прошу поставить этот вопрос на голосование. И чтобы не было больше никаких оговорок. Повестку дня мы принимаем? Все документы, которые мы здесь рассматриваем, должны приниматься поименно, я прошу проголосовать.

Старшынствуючы. Шаноўныя дэпутаты, я працую ў адпаведнасці з Рэгламентам. Прапановы аб тым, каб прыняць пайменным галасаваннем пастанову па першаму пытанню не было. І таму, прабачце, такога рашэння не было. Я прашу нашу юрыдычную службу ўдакладніць гэта пытанне. Калі патрабуецца такое рашэнне, давайце галасаваць пайменна. У нас сёння і тайнае галасаванне было, вы ж ведаеце. Мы ж перайшлі зусім да новага пытання. Калі ласка, другі мікрафон.

Станкевіч У.М. Уважаемые народные депутаты, вот народный депутат Коваленок тоже, как и я, считает, что вчера было принято решение о поименном голосовании. Помните, мое предложение было: все вопросы данной сессии /поскольку они чрезвычайно важны/ голосовать поименно. И Николай Иванович Дементей сказал: "Считаем, что все вопросы будем голосовать поименно". И прав народный депутат Зданевич в том, что мы нарушили порядок, официально не проголосовали за это. Поэтому поддерживаю предложение Зданевича проголосовать официально.

Старшынствуючы. Я заклікаю не марнаваць час, я ўдакладніў у юрыдычнай службы -- усе пытанні па павестцы дня прымаліся пайменна. Такім было наша рашэнне, іншага не было. Унесена прапанова, каб рабіць далей галасаванне пайменна. Хто за гэту прапанову, прашу галасаваць. Хто супраць? Хто ўстрымаўся?

Усе далейшае галасаванне, калі мы асоба гэта не агаворым, будзе ісці пайменна.

Цяпер, хто ўвойдзе ў склад камісіі? Пакуль што ёсць адна прапанова. Народны дэпутат Пырх. Сем чалавек трэба набраць. Трэці

мікрафон.

Навумчык С.І. (Віцебская-Чыгуначная выбарчая акруга № 181). Паважаныя дэпутаты, мне даводзілася, як і іншым дэпутатам, быць у складзе камісіі па расследаванню дзейнасці службовых асоб падчас Чарнобыля. Было шмат выпадкаў, калі нас не дапускалі да сакрэтных ці службовых дакументаў у многіх установах. Таму нам трэба даць гэтай камісіі надзвычайныя паўнамоцтвы, каб ніякіх перашкод у іх рабоце быць не магло. Інакш гэта камісія проста будзе непатрэбна.

Другое. Я хацеў бы, каб тыя дэпутаты, якія будуць прапанаваць у склад камісіі кандыдатуры, устрымаліся прапаноўваць тых дэпутатаў, якія альбо падтрымалі гэты камітэт, альбо не вызначылі сваіх рэзка адмоўных адносін. Галоўнае, каб гэта былі толькі тыя людзі, якія ўвайшлі ў склад тых 82 дэпутатаў, якія выказаліся за скліканне нечарговай сесіі. Гэта галоўнае, бо крэдыт маральнага даверу для камісіі -- вельмі важны фактар.

І трэцяе. Паважаны Станіслаў Станіслававіч, мне прыходзіцца звярнуцца да вас з просьбай прыняць тэрміновыя меры па апячатанню будынкаў....

Старшынствуючы. Мы ж зараз пастанову будзем прымаць па гэтаму пытанню.

Навумчык С.І. Ведаеце, тут час не церпіць, і мы ведаем, што ўжо за гэтыя дні знішчаны шмат якія дакументы. Каб мы не падазравалі адзін другога, давайце мы...

Старшынствуючы. Давайце не марнаваць час, а прымаць рашэнні. Трэці мікрафон.

Саковіч В.А. Я вношу предложение включить в состав комиссии народного депутата Василевского.

Старшынствуючы. Калі ласка, другі мікрафон.

Герасюк І.М. Я не магу згадзіцца з дэпутатам Навумчыкам. Ён лічыць, што толькі 82 народных дэпутата, спіскі якіх надрукавала "Народная газета", выказаліся за скліканне нечарговай сесіі. Мяне ў гэтым спіску няма, а я выказваю жаданне працаваць у гэтай

камісіі і вылучаю сваю кандыдатуру.

Старшынствуючы. Калі ласка, уносьце канкрэтныя прапановы. Трэці мікрафон.

/Дэпутаты не прадстаўляюцца, гавораць з месца/.

З месца. Я прапаную Станкевіча ўключыць.

Старшынствуючы. Калі ласка, другі мікрафон.

З месца. Я прапаную ўключыць Антончыка.

Старшынствуючы. Першы мікрафон.

З месца. Я предлагаю депутатов Беленького и Трусова.

Старшынствуючы. Калі ласка, чацвёрты мікрафон.

З месца. Предлагаю ввести в состав комиссии депутата Степаненко.

Старшынствуючы. Калі ласка, пяты мікрафон.

З месца. Я предлагаю народного депутата Зверева.

Старшынствуючы. Так, калі ласка, восьмы мікрафон.

З месца. Я предлагаю депутата Долголева.

Старшынствуючы. Калі ласка, дзевяты мікрафон.

З месца. Я предлагаю в состав комиссии включить народного депутата Давлюда.

Старшынствуючы. Калі ласка, першы мікрафон.

Пазьняк З.С. Прапаную дэпутата Ігара Герменчука.

Старшынствуючы. Калі ласка, чацвёрты мікрафон.

З месца. Я предлагаю народного депутата Наумчика.

Старшынствуючы. Калі ласка, пяты мікрафон.

З месца. Прошу включить в состав этой комиссии народного депутата Лебедько.

Старшынствуючы. Калі ласка, дзевяты мікрафон.

З месца. Включить Попова Павла Алексеевича.

Старшынствуючы. Можа рысу будзем падводзіць. Другі мікрафон.

З месца. Предлагаю народнага депутата Маринича.

Старшынствуючы. Калі ласка, шосты мікрафон.

З месца. Я прапаную ў склад камісіі ўключыць дэпутата Лукашова. Гэта ад камісіі па прамысловасці.

Старшынствуючы. Першы мікрафон.

З месца. Я хочу обратить внимание, что, на мой взгляд, там должны работать в первую очередь специалисты из числа депутатов. Народного депутата Пырха предлагаю.

Старшынствуючы. Ужо мы ўключылі яго.

Калі ласка, чацвёрты мікрафон.

З месца. Предлагаю включить в состав комиссии народного депутата Булахова.

Старшынствуючы. Булахаў не можа. Ён член Прэзідыума, старшыня пастаяннай камісіі.

Булахаў Д.П. Я член Президиума и дать оценку себе не могу.

Старшынствуючы. Падвядзём рысу. Хто за тое, каб падвесці рысу, прашу падняць рукі.

Падвялі рысу. Значыцца я ... У вас запісана, Дэмітрый Пятровіч, калі ласка, зачытайце спіс.

Булахов Д.П. Итак, я прошу прощения, я не записывал инициалы и округ.

Первая кандидатура -- Пырх, затем Василевский, Герасюк,

Станкевич, Антончик, Беленький, Степаненко, Зверев, Долголев, Давлюд, Герменчук, Наумчик, Лебедько, Попов, Маринич, Лукашов. Шестнадцать кандидатур. ... Когда было сказано, что две кандидатуры не выдвигать, то тот, кто предлагал Трусова, назвал кандидатуру Беленького. И Вертинский Анатолий Ильич. Семнадцать.

Старшынствуючы. Шаснаццаць у мяне.

Булахов Д.П. Я еще раз прочту. Пырх, Василевский, Герасюк, Станкевич, Беленький, Степаненко, Зверев, Долголёв, Давлюд, Герменчук, Наумчик, Лебедько, Попов, Маринич, Лукашов, Вертинский.

Старшынствуючы. Мы прынялі рашэнне, што ствараем камісію у складзе 7 чалавек.. I мы прагаласавалі за гэта. Цяпер у нас семнаццаць.

Булахов Д.П. Товарищи, мы проголосовали за численный состав комиссии, семь человек. Выход здесь есть. Мы выбираем семь человек, набравших наибольшее количество голосов. Относительное большинство, относительно других. Только если есть самоотводы. Их не слышно было.

Старшынствуючы. Пяты мікрафон.

3 места. Я, честно говоря, думал, что все-таки это выдвижение будет и одновременно формированием комиссии, но раз стал так вопрос, что семь человек все-таки оставить, я предлагаю по этому поводу провести тайное голосование.

Старшынствуючы. Ёсць фактычна дзве прапановы.

Першая прапанова -- галасаваць за усіх. Мы зараз вырашым, тайна ці так. I тыя, хто набірае большасць, уваходзіць у камісію.

I ёсць другая прапанова, стварыць гэту камісію з семнаццаці чалавек, усіх тых, каго прапанавалі.

Дзмітрый Пятровіч і шаноуныя вопытныя людзі, ці можа аб'ектыуна працаваць камісія з семнаццаці чалавек?

Булахов Д.П. Товарищи, комиссия эффективно может работать

двумя группами по три-четыре человека. Общий вывод: нечетное количество людей -- семь человек. Семнадцать человек -- это то же самое, что и Конституционная комиссия -- семьдесят четыре человека. Семь человек мы определили с вами. Давайте голосовать, и тот, кто набирает большее количество голосов в соответствии с Регламентом становится членом комиссии.

Старшынствуючы. Я хачу ў нашай службы запытаць. Мы можам толькі "за" і больш нічога?

Булахов Д.П. Вообще-то такая процедура -- только "за" -- Регламентом не предусмотрена.

Старшынствуючы. ...Мы можам вызначыць парадак галасавання.

Ёсць такая прапанова, каб не марнаваць час, галасуем толькі "за". Пішам лічбы і пасля гэтага вызначаем. Згода? Прашу пацвердзіць гэту прапанову. Прашу апусціць рукі. Хто супраць? Добра. Пераходзім да галасавання.

Паіменнага ужо не будзе, таму што прапанавана тайнае. Давайце зробім звычайнае электроннае галасаванне. Згода? Няма нікога супраць? Няма. Пераходзім да звычайнага электроннага галасавання. Галасуем.

Ітак, першы народны дэпутат -- Пырх. Хто за? 151.

Народны дэпутат Васілеўскі. Хто за? 173.

Народны дэпутат Герасюк. Хто за? 118

Народны дэпутат Станкевіч. Хто за? 144.

Народны дэпутат Антончык. Хто за? 84

Народны дэпутат Беленькі. Хто за? 138.

Народны дэпутат Сцепаненка. Хто за? 169.

Народны дэпутат Звераў. Хто за? 196.

Народны дэпутат Вярцінскі Анатоль Ільіч. Хто за? 113.

Народны дэпутат Далгалёў. Хто за? 128.

Народны дэпутат Даўлюд. Хто за? 206.

Народны дэпутат Гермянчук. Хто за? 87.

Народны дэпутат Навумчык. Хто за? 82.

Народны дэпутат Лябедзька. Хто за? 39.

Народны дэпутат Папоў Павел Аляксеевіч. Хто за? 156.

Народны дэпутат Марыніч. Хто за? 187.

Народны дэпутат Лукашоў. Хто за? 125.

Ну, давайце цяпер вырашаць, што будзем рабіць. Нам патрэбна якая большасць?

Булахаў Д.П. Станислав Станиславович, любое решение мы должны принимать простым большинством голосов. Поэтому в соответствии с результатами голосования пять членов комиссии избраны. Это народные депутаты Василевский -- 173 голоса, Степаненко -- 169, Зверев -- 196, Давлюд -- 206, Маринич -- 187. Пять человек. Прошу прощения, тогда четыре. Вот сказали, кворум 174, значит, депутат Степаненко тоже не избран. (Шум у зале). А Василевский 173. Давайте вместе посчитаем, я все записывал. Василевский -- 173. 174 надо. (Шум у зале). 174 кворум сейчас у нас. (Шум у зале).

Старшынствуючы. Калі ласка, трэці мікрафон.

Саковіч В.А. (Гарадоцкая выбарчая акруга № 149, Віцебская вобласць). Дмитрий Петрович, по-моему, сессия установила порядок -- простое большинство, семь человек, кто наберет больше всего голосов. Мы сами определили порядок. (Шум у зале).

Старшынствуючы. Я хачу прапанаваць наступны выхад з гэтага становішча. Давайце мы зараз спісам прагаласуем за тых сем чалавек, якія набралі большасць галасоў. (Шум у зале). І поўнае галасаванне: за, супраць, устрымаліся, усё поўнае для пратакола.

Булахаў Д.П. Это как выход. Тогда я попытаюсь сейчас

проанализировать.

Старшынствуючы. Паспрабуйце.

Булахаў Д.П. Начинаем с максимума. Давлюд -- 206 голосов -- первая кандидатура. Зверев -- 196 -- кандидатура 2. Маринич -- 187 -- кандидатура 3. Василевский -- 173 -- кандидатура номер 4. Степаненко -- 169 -- пятая кандидатура. Так, народный депутат Попов -- 156 -- кандидатура номер 6. И Пырх -- 151 -- 7. Предлагается списком проголосовать за этот состав комиссии.

Старшынствуючы. Я стаўлю на галасаванне... Вы ведаеце, у мяне такое ўражанне, што я павінен вам уступіць сваё месца. Я хачу паставіць пытанне, ідзе галасаванне. Я зараз вас папрашу па матывах выказацца. (Шум у зале). Значыцца, ставіцца на галасаванне наступнае... Камісію ў складзе народных дэпутатаў: Даўлюд, Звераў, Марыніч, Васілеўскі, Сцепаненка, Папоў і Пырх. Галасуем за іх цалкам. Калі ласка, першы мікрафон.

Садоўскі П.В. Усё ж такі гэта тэатр абсурду, паважаныя калегі. Я б прапанаваў так: перавярнуць усё гэта і тых сем апошніх уключыць. А чаму? Вось чаму. Васілеўскі -- гэта наш Васілеўскі, з нашай камісіі, ці другі Васілеўскі? (Шум у зале). Наш? Наш Васілеўскі, калі мы гаварылі на камісіі, ён гаварыў, што там усё нармальна, праблем не было ў час путчу... Ну, вы ведаеце, Васілеўскі добры чалавек, але вось я б не ўключаў яго ў гэту камісію. (Шум у зале).

Старшынствуючы. Так, дзякую. Я прашу народных дэпутатаў падрыхтавацца да галасавання. (Шум у зале). Так, я стаўлю на галасаванне... камісію ў тым складзе, у якім я прачытаў, з сямі чалавек. І галасуем цалкам. Па матывах? Пяты мікрафон.

Карпаў А.А. У меня есть предложение провести голосование другим путем. Те, кто пройдет при нашем голосовании, наберет необходимый кворум, значит, по нем голосование не нужно. Те, кто останется, по сути дела, они большинство не набрали. Почему не набрали? Потому что, допустим, ... предпочел бы отдать свой голос другому человеку. Поэтому вот по тем людям, которые набрали наибольшее количество голосов, проголосовать отдельно.

18. **Яўген Глушкевіч** (Дэмклюб)
19. **Валянцін Голубеў** (Апазыцыя БНФ)
20. **Мечыслаў Грыб** (КПБ-КПСС)
21. **Уладзімер Грыбанаў** (Апазыцыя БНФ да XI, 1992 г.)
22. **Мікалай Грынёў** (КПБ-КПСС)
23. **Барыс Гюнтар** (Апазыцыя БНФ)
24. **Іван Данілевіч** (КПБ-КПСС)
25. **Васіль Даўгалёў** (Дэмклюб)
26. **Аляксей Даўлюд** (Дэмклюб)
27. **Леанід Дашук** (не дэпутат; Міністар юстыцыі; КПБ-КПСС)
28. **Мікалай Дземянцей** (КПБ-КПСС)
29. **Пётр Драган** (не згуртаваны)
30. **Валеры Ермалаеў** (КПБ-КПСС)
31. **Міхаіл Жукоўскі** (КПБ-КПСС)
32. **Міхаіл Жэбрак** (КПБ-КПСС)
33. **Уладзімер Заблоцкі** (Апазыцыя БНФ)
34. **Лявонці Зданевіч** (Апазыцыя БНФ)
35. **А. Зеляноўскі** (КПБ-КПСС)
36. **Альбэрт Кавалёў** (КПБ-КПСС)
37. **Уладзімер Кавалёнак** (Дэмклюб)
38. **Аляксей Камай** (КПБ-КПСС)
39. **Іван Каратчэня** (КПБ-КПСС)
40. **Аляксей Карпаў** (КПБ-КПСС)
41. **Генадзь Карпенка** (Дэмклюб)
42. **Анатоль Кастэнка** (не дэпутат; камандуючы БВА)
43. **Міхаіл Качан** (КПБ-КПСС)
44. **Вячаслаў Кебіч** (КПБ-КПСС)
45. **Уладзімер Кулакоў** (КПБ-КПСС)
46. **Уладзімер Курбаеў** (КПБ-КПСС)
47. **Мікалай Крыжаноўскі** (Апазыцыя БНФ)
48. **Генадзь Лавіцкі** (КПБ-КПСС)
49. **Аляксандар Лукашэнка** (КПБ-КПСС)
50. **Генадзь Майсееў** (падпісант Апазыцыі БНФ)
51. **Віталь Малашка** (Апазыцыя БНФ)
52. **Анатоль Малафееў** (не дэпутат; 1-ы сакратар ЦК КПБ)
53. **Анатоль Мардашоў** (КПБ-КПСС)
54. **Валеры Мацюшэўскі** (КПБ-КПСС)
55. **Іван Машко** (КПБ-КПСС)
56. **Міхаіл Мачуленка** (КПБ-КПСС)
57. **Сяргей Навумчык** (Апазыцыя БНФ)
58. **Анатоль Новікаў** (КПБ-КПСС)
59. **Яўген Новікаў** (Апазыцыя БНФ да 1993 г.)
60. **Зянон Пазьняк** (Апазыцыя БНФ)
61. **Сяргей Папкоў** (Апазыцыя БНФ)
62. **Аляксандар Паруль** (падпісант Апазыцыі БНФ)
63. **Аляксандар Пазюмка** (КПБ-КПСС)
64. **Сьцяпан Пісарэвіч** (КПБ-КПСС)
65. **Ігар Пырх** (Апазыцыя БНФ)
66. **Віктар Радамысьльскі** (Дэмклюб)
67. **Яўген Радзецкі** (КПБ-КПСС)
68. **Пётра Садоўскі** (Апазыцыя БНФ)
69. **Васіль Саковіч** (КПБ-КПСС)
70. **Аляксандар Сасноў** (падпісант Апазыцыі БНФ)
71. **Дзімітры Сівіцкі** (КПБ-КПСС)
72. **Васіль Сінчылін** (КПБ-КПСС)
73. **Міхаіл Скарынін** (не згуртаваны)
74. **Сяргей Слабчанка** (Апазыцыя БНФ)
75. **Уладзімер Станкевіч** (Апазыцыя БНФ да XI. 1992 г.)
76. **Міхаіл Сукач** (падпісант Апазыцыі БНФ)
77. **Дзімітры Сыракваш** (КПБ-КПСС)

**78. Аляксандар Сьпіглазаў** (Дэмклюб)
**79. Аляксей Сьцепаненка** (КПБ-КПСС)
**80. Галіна Сямдзянава** (Апазыцыя БНФ)
**81. Іосіф Сярэдзіч** (Дэмклюб)
**82. Лявон Тарасенка** (Дэмклюб)
**83. Г. Тарнаўскі** (не дэпутат; Пракурор БССР)
**84. Мікалай Тоўсьцік** (КПБ-КПСС)
**85. Васіль Трафіменка** (КПБ-КПСС)
**86. Алег Трусаў** (Апазыцыя БНФ)
**87. Раман Унучка** (КПБ-КПСС)
**88. Уладзімер Феакцістаў** (не дэпутат; сябра працоўнага страйкама)
**89. Павел Холад** (Апазыцыя БНФ)
**90. Альфонс Цішкевіч** (КПБ-КПСС)
**91. Васіль Чэпік** (КПБ-КПСС)
**92. Васіль Шаладонаў** (КПБ-КПСС)
**93. Васіль Шачак** (падпісант Апазыцыі БНФ)
**94. Аляксей Шаўнін** (КПБ-КПСС)
**95. Алесь Шут** (Апазыцыя БНФ)
**96. Станіслаў Шушкевіч** (Дэмклюб; КПСС)
**97. Уладзімер Ягораў** (не дэпутат; Міністар МУС)

**Заўвагі**

1. Выступіла 97 асобаў з 265 (як правіла, па некалькі разоў). Гэта 36 адсоткаў ад усіх зарэгістраваных дэпутатаў.
2. Дзеля выступу на сэсіі запісалася вельмі шмат дэпутатаў. Але ня ўсе здолелі выступіць з прычыны скарачэньня дыскусіяў агульным рашэньнем.
3. У стэнаграме не адлюстраваны надзвычай рэзкі выступ Паўла Холада (Апазыцыя БНФ), які выступаў без мікрафона і выступ не запісаўся на магнітную стужку фанаграмы.
4. У стэнаграме (стар. 290, бюлютэнь №4) ў час дыскусіяў успамінаецца прозьвішча „Трусаў" без звароту па імені. Маецца на ўвазе дэпутат Іван Трусаў (КПБ-КПСС).

# ДЭПУТАТЫ АПАЗЫЦЫІ БНФ


*D-6 Аксаміт Мікалай Уладзімеравіч*


*D-7 Аламліеў Віктар Пятровіч*


*D-8 Антончык Сяргей Антонавіч*


*D-9 Баршчэўскі Лявон Пятровіч*


*D-10 Беленькі Юры Адамавіч*


*D-11 Галубовіч Вольга Мікалаеўна*


*D-12 Германчук Ігар Іванавіч*


*D-13 Голубеў Вялянцін Фёдаравіч*


*D-14 Грушавы Генадзь Уладзімеравіч*



*D-15 Гюнтар Барыс Давідавіч*



*D-16 Дзейка Леанід Іванавіч*



*D-17 Заблоцкі Уладзімер Мікалаевіч*



*D-18 Зданевіч Лявонці Ульянавіч*



*D-19 Какоўка Віктар Фёдаравіч*



*D-20 Крыжаноўскі Мікалай Кірылавіч*



*D-21 Малашка Віталь Аляксеевіч*



*D-22 Маркевіч Мікалай Мікалаевіч*



*D-23 Навумчык Сяргей Іосіфавіч*


*D-24 Пазьняк Зянон Станіслававіч*


*D-25 Папкоў Сяргей Пятровіч*


*D-26 Пырх Ігар Іванавіч*


*D-27 Садоўскі Пётра Вікенцьевіч*


*D-28 Слабчанка Сяргей Іванавіч*


*D-29 Сямдзянава Галіна Георгіеўна*


*D-30 Трусаў Алег Анатольевіч*


*D-31 Холад Павел Ігнатавіч*


*D-32 Шут Аляксандар Аляксандравіч*

*ДЭПУТАТЫ АПАЗЫЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ XII СКЛІКАНЬНЯ (1990 – 9.01.1996.). Здымкі дэпутатаў зробленыя вясной 1990 года. Рэпрадукцыі з даведніка „НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ. ДВАНАЦЦАТАЕ СКЛІКАНЬНЕ". – МІНСК, „БЕЛАРУСЬ", 1992.*

# ВЫСТУП ДЭПУТАТА З. ПАЗЬНЯКА НА АПОШНІМ (ВЯЧЭРНІМ) ПАСЕДЖАНЬНІ СЭСІІ 25 ЖНІЎНЯ 1991 Г. (ВЫДРУК СА СТЭНАГРАМЫ)

**Пазьняк З. С.: –** Я хачу зрабіць некалькі заўваг па гэтым пытаньні, паколькі тут у залі выступалі некаторыя дэпутаты, у прыватнасьці, дэпутат Лукашэнка, які проста заблытаў гэтае пытаньне.

Справа ў тым, шаноўныя калегі, што зараз мы ўступілі ў прынцыпова новую сытуацыю. Усе рэспублікі вакол нас аб'явілі аб сваёй нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці. У тым ліку ўчора гэта зрабіла Украіна. Практычна, пытаньне аб Саюзным дагаворы здымаецца на нейкі тэрмін. Саюз існуе толькі намінальна. І калі ў гэтай сытуацыі мы ня прымем адпаведнага закона аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, мы трапім у вельмі кепскае становішча. Таму што тыя рэспублікі, якія вакол нас, яны будуць разьвівацца (і разьвіваюцца) як нацыянальныя дзяржавы на прынцыпова новай аснове. Яны ідуць да рынку, у іх будзе больш мабільная эканоміка, і мы трапім у непасрэдную залежнасьць ад гэтых рэспублік. Тым больш, я ў сваім дакладзе гаварыў (а я дастаткова добра знаёмы з расейскай дэмакратыяй на працягу многіх гадоў) і з усёю адказнасьцю магу сказаць, што на ўсходзе ў нас фармуецца маладая агрэсіўная імпэрыя ў форме дэмакратыі. Тыя дэмакраты, якіх мы добра ведаем, не прызнаюць фактычна нас як нацыю, яны не глядзяць на нас, як на асобную дзяржаву і на асобную тэрыторыю, а глядзяць на нас, як на вотчыну, на якую яны маюць пэўнае права.

На вялікі жаль, гэта так. І менавіта зыходзячы з гэтых меркаваньняў, я неаднойчы выказваўся і пісаў аб тым, што я сумняваюся ў дэмакратычным характары будучай Расеі. Таму што асноўны прынцып дэмакратыі – гэта прызнаньне права нацыі на самавызначэньне. Калі ў грамадзтве існуе імпэрская мэнтальнасьць, дасягнуць дэмакратыі поўнасьцю вельмі цяжка. І тыя высновы, якія мы можам зрабіць зараз, сутыкаючыся з палітыкай з Усходу, прыводзяць нас да думкі, што зараз нам, каб выратаваць наш народ, нашу эканоміку, абавязкова патрэбны дзяржаўны суверэнітэт. Тыя хуткія тэмпы, якімі зараз пойдуць разьвівацца дзяржавы, якія заснаваны на нацыянальнай незалежнасьці, яны прывядуць да таго, што іхняя эканоміка высмакча з нашай рэспублікі рабочую сілу, высмакча тавары. І калі ў нас ня будзе сваёй валютнай сістэмы (а мы можам яе мець толькі тады, калі будзем мець нацыянальную незалежнасьць), мы трапім у вельмі цяжкае эканамічнае і залежнае становішча. Ужо Расея некалькі тыдняў таму паведаміла (Ельцын паведаміў) аб тым, што зьбіраецца павысіць цэны на нафту. Гэта быў у пэўнай ступені шантаж нашай рэспублікі. І ён быў ня першы раз.

Калі мы ня будзем мець нацыянальнай незалежнасьці, мы ня зможам свае рэсурсы, свае ўсе сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народа і нашай дзяржавы, мы ня зможам супрацьстаяць гэтай палітыцы. А яна будзе, і будзе абавязкова.

Мы ўступаем у новы стан дзяржаўных узаемаадносін. Таму, шаноўныя калегі, я вельмі вас прашу, паколькі палітычная абстаноўка зьмянілася рэзка і хутка, і некаторыя з нас не пасьпелі яе адразу ацаніць, я заклікаю ўсіх дэпутатаў зараз ацаніць гэтую абстаноўку самым належным чынам. Таму што ўсялякае замаруджваньне пойдзе нам на шкоду.

Ня трэба баяцца, што тут, як казалі некаторыя дэпутаты, узьнікне Альбанія, Куба, Карэя. Нічога падобнага. Працэсы, якія пайшлі ў нас, нават ход нашай сэсіі, пацьвярджаюць: яны неабарачальныя, яны ідуць на карысьць нашаму грамадзтву. А суверэнітэт дасьць нам магчымасьць стаць свабоднымі і незалежнымі, дасьць нам магчымасьць разьвіць тыя асновы, якія мы закладваем, ідучы да рэформ. Я прашу вас паставіць гэтае пытаньне і вырашыць яго сёньня. Бо заўтра можа быць позна. Нас тут ня вельмі многа, і патрэбна канстытуцыйная большасьць. Таму я рашыў выступіць перад вамі, і, можа, для некаторых было гэта нечаканым. Але я дастаткова добра ведаю, якія ўзаемаадносіны ў тых маладых структурах, якія зараз нараджаюцца. І калі мы спаткаемся зь імі потым, не падрыхтаваўшыся, мы проста апынемся ў невырашальным стане. Дзякуй за ўвагу.

**Старшынствуючы: –** Дзякую. Калі ласка, восьмы мікрафон.

**Мачуленка М. А.** (Ельская выбарчая акруга №207, Гомельская вобласьць.): – Уважаемые народные депутаты! Уважаемые депутаты-коммунисты! Мы с вами последовательно отстаивали идею той Декларации о суверенитете, которая в конечном итоге была прмнята Верховным Советом. Мы с вами также последовательно отстаивали идеи заключения Союзного договора на обновленной основе. То, что произошло на этой неделе, резко изменило ситуацию. И в этом плане я стопроцентно поддерживаю народного депутата Позняка и предлагаю здесь же, сейчас же проголосовать за то, что он сказал. Спасибо. (Аплодисменты.)

# УРЫВАК З КНІГІ «ДЭПУТАТЫ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ»

## УНУТРАННАЯ ЭТЫКА, ДАЧЫНЕНЬНІ І ТАКТЫКА НА ПЕРАМОГУ

Яшчэ большая ўвага надавалася ў Апазыцыі БНФ дачыненьням паміж сабой. Істотнымі былі некалькі пазыцыяў. Перш за ўсё – аб'яднаць наш энтузіязм у канкрэтнай працы дзеля дасягненьня мэты і ажыцьцяўленьня задач. Тут мусілі быць прыярытэты і пасьлядоўнасьць у працы. Але галоўнае – плянаваць, рыхтаваць і рабіць трэба было так і тое, што забясьпечвала б нам перамогу, ці хаця б частковы посьпех. Усімі спосабамі трэба было дасягаць перамогі і не дапускаць паражэньняў (інакш мог узьнікнуць псіхалягічны параліч). Гэта я разумеў даўно, як кажуць, і розумам і скурай. Перамога – важнейшая ўмова пасьпяховага змаганьня. Перамога (тым больш над такой фармальнай масай і колькаснай магутнасьцю, як намэнклятурна-камуністычны дэпутацкі корпус) патрабавала сілы, давала нам сатысфакцыю, упэўненасьць у сабе, за што б мы ні браліся. Апазыцыйны Давід гатовы быў зьвярнуць горы. Лічу вялікім нашым тактычным дасягненьнем, што мы адразу, з ходу пачалі перамагаць, крушыць, блытаць, раскідваць гэтую намэнклятурную закасьнелую масу, не даючы ім апямятацца.

Але самая вялікая праблема асабіста для мяне была ня ў тым, як арганізаваць Апазыцыю і пабудаваць працу дзеля перамогі. Самая вялікая задача была – арганізаваць самога сябе. Мяркую, што кіраваць, скажам, вялікім савецкім заводам у пэўным сэнсе прасьцей, чым кіраваць партыяй. Там ёсьць Закон, тарыфы, субардынацыя, працоўная дысцыпліна, кантракт, зарплата і г. д. Любога парушальніка можна паставіць на месца, альбо звольніць. У партыі, і тым больш, у парляманцкай Апазыцыі, няма абсалютна ніякіх рычагоў улады і ўплыву, акрамя набыцьця аўтарытэту і ўменьня ўзаемадзейнічаць зь людзьмі, якія – такія ж, як і ты, валодаюць роўным статусам. Вось гэтым узаемадачыненьням мне прыходзілася вучыцца ўвесь час.

Атмасфэра ў нашым асяроддзі была заўсёды дзелавая і сяброўская. У нас ніколі не было павышэньня голасу, крыклівых гарачых спрэчак (прыкмета крызісу і недзеяздольнасьці калектыву). Як правіла, выказваліся розныя думкі, але, практычна, заўсёды прыходзілі да адзінага рашэньня. Мы прыслухоўваліся адзін да аднаго. Скажам, да мяне падыходзілі і казалі, што ў час маіх выступаў не павінна быць металу ў голасе, гэта адмоўна ўплывае на намэнклятуру („вот, смотрите, он же диктатор"). Прышлося ваяваць з „металам".

Аднойчы, яшчэ ў пачатку працы Вярхоўнага Савета, адзін наш дэпутат, выступаючы вусна з трыбуны, дапусьціў некалькі памылак, замест арыгінальнага выказваньня атрымаўся ляпсус, які ў зале заўважылі і нават засьмяяліся. Тады (адзін на адзін) я сказаў гэтаму сябру, каб ён цэлы месяц не выступаў у зале, нідзе і ніяк (бо трэба, каб пра выпадак забыліся), а праз месяц каб падрыхтаваў пісьмовы выступ (калі захоча, маўляў, можа паказаць яго мне) і пасьля гэтага пачаў бы выступаць.

Усё так было і зроблена, з адпаведнымі карыснымі высновамі. Сутнасьць у тым, што няўдала выступіць у Вярхоўным Савеце (ды яшчэ выклікаць сьмех) магчыма было (як паказала практыка) толькі адзін раз (гэта агульнае псіхалягічнае правіла, дарэчы). Пры паўторным правале такога дэпутата ўжо сур'ёзна не ўспрымалі. Ствараўся адпаведны „вобраз" (імідж). Ён „прыклейваўся" да чалавека. Паправіць становішча было вельмі цяжка, практычна, немагчыма. Шмат якія „гаваруны" ў савецкім парляманце зрабілі сабе псіхалягічнае „харакіры" з-за няўемнай цягі да непадрыхтаванага гаварэньня (калі яны выступалі, іх ужо ніхто не ўспрымаў). Мы гэта бачылі і ўважліва ставіліся да сваіх слоў. Калі выступалі дэпутаты Апазыцыі, у залі цішэла, усе слухалі.

Вельмі важна, што ў дэпутацкай Апазыцыі БНФ не было сварак і ўнутраных канфліктаў. Дух сяброўства, прыўзьняты настрой, павага, дзелавы падыход – гэта была тыповая атмасфэра ў нашым асяроддзі. (Яшчэ і гумар, але пра гэта я тут не кажу.) Як я ўжо пісаў, з „адыходнікамі", здраднікамі і асобамі з прыкметамі агентуры мы, асабліва не згаворваючыся, расставаліся спакойна, цьвёрда і непрыкметна, так, што гэтага амаль не заўважылі іншыя.

Нашыя непрыяцелі былі зацікаўленыя, каб у Апазыцыі існавалі канфлікты, скандалы, каб не было адзінства, каб мець нагоду яе прынізіць і т. п. Мы ўсё гэта выдатна разумелі і былі вельмі ўважлівымі да сытуацыі і дачыненьняў.

Уваходзячы ў парляманцкую залю, мы ўжо былі падрыхтаваныя да выступаў і да пэўных дзеяньняў дзеля той ці іншай задачы. Але ў межах пастаўленай задачы заўсёды была творчая імправізацыя нашых дэпутатаў. Бо ўсяго нельга было прадбачыць, і сытуацыя часта мянялася. Нашая Апазыцыя не была так жорстка скаваная і павязаная рыгарыстыкай, як у клясычным (скажам, у брытанскім ці канадзкім) парляманце. Тады б мы нічога не зрабілі. Але, разам з творчым падыходам, заўсёды ў нас была дысцыпліна, актыўнасьць, бачаньне залі, імкненьне ўплываць на сытуацыю. Калі ж раптоўна зьяўляліся нейкія новыя акалічнасьці, то паводзіны, тэмы, выступы рэгуляваліся праз старшыню Апазыцыі і потым хутка ўдакладняліся ў перапынку, на кароткай зборцы дэпутатаў.

## НЕ ПАМЫЛЯЦЦА І ПЕРАМАГАЦЬ

Наша стратэгія перамогі дазволіла нам распрацаваць і адпаведную тактыку дзеяньняў і паводзінаў дзеля ажыцьцяўленьня гэтай стратэгіі. Улічваючы важнасьць падзеяў, якія адбываліся хутка, сканцэнтравана, часам нечакана і ўлічваючы нашу дэпутацкую малалікасьць, вельмі важна было ў гэтым пераменным працэсе гісторыі вызначыць дакладнае месца і дакладны час прыкладаньня нашай сілы. Гэта ўжо амаль мастацтва, але і яно нам удавалася. Найбольш характэрны прыклад гэтаму якраз – спыненьне дзейнасьці КПСС у Беларусі і здабыцьцё незалежнасьці. Нам удалося не спазьніцца з сэсіяй Вярхоўнага Савета і дамагчыся яе адразу (праз два дні) пасьля путча (а прышлося менавіта дамагацца). У залю мы ўвайшлі зь *Бел-Чырвона-Белым Сьцягам*. Гэта істотна. Камуністы павінны былі адразу зразумець, што ўвайшла перамога і новая незалежная Беларусь.

Тут таксама ўсё ад пачатку было прадумана. Сьцяг ў залю ўнесла Г. Сямдзянава, а ў Прэзыдыюм яго па маёй просьбе занёс і паставіў В. Голубеў. (Г. Сямдзянава дапамагала там замацаваць сьцяг.) Тады ж, калі стала зразумела, што сэсія можа пайсьці ў бок і не па нашым сцэнары (бо камуністы пачалі абмяркоўваць сьцяг, які яшчэ ня быў афіцыйнай сымволікай), я папрасіў В. Голубева забраць Сьцяг і паставіць у нашым 1-м апазыцыйным сэктары. (Усе гэтыя этапы адлюстраваныя на фота.) Мы тут жа ўзялі ініцыятыву ў свае рукі і паставілі пытаньне аб зьняцьці М. Дземянцея з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета.

Істотным таксама быў бурны напор на Прызыдыюм і на Дземянцея з першых жа секундаў сэсіі. Намэнклятуршчыкі павінны былі адчуць, што мы можам іх разарваць (пад сьценамі парляманта стаяла 30-40 тысяч людзей). Памятаю, што Павел Холад крычаў без мікрафона і роў, як труба Архангела.

Калі б мы празявалі эпізод з выхадам да трыбуны сакратара ЦК КПБ А. Малафеева, у нас, напэўна, узьніклі б праблемы са спыненьнем дзейнасьці КПСС. Ня мае значэньне, што казаў бы гэты першы сакратар (прамоўца зь яго быў ніякі). Істотна было тое, што калі б яму ў той сытуацыі далі выступаць, гэта стала б знакам для намэнклятуры, што КПСС яшчэ ліпіць і што „ня ўсё страчана". Таму нашыя дэпутаты зрэагавалі імгненна, і з усіх канцоў залі кінуліся напярэймы Малафееву. Яго адагналі ад трыбуны, не далі выступаць. (Малафееў быў дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і пачуваўся нахабна, думаў, што ўсё будзе, як некалі.) Далейшы працэс сэсіі пайшоў па нашым раскладзе.

Тое самае (момант часу) перад галасаваньнем за незалежнасьць, калі ўсё вырашалі секунды, і трэба было знайсьці рычаг і выступіць, каб падштурхнуць усю дэпутацкую бальшыню да рашучага выбару.

У мяне было адчуваньне няпэўнасьці ў залі. Агульны настрой быў за незалежнасьць, але ветэраны партыі і НКВД пры любых умовах былі б супраць, і калі б да іх далучылася яшчэ нейкая частка савецкіх, то можна было б не набраць 2/3 галасоў (канстытуцыйную большасьць). Вельмі невыразна паводзіў сябе сьпікер Шушкевіч. Складвалася ўражаньне, што ён не зацікаўлены ў станоўчым галасаваньні і падтрымае тых, куды хісьнецца воля і нават настрой дэпутатаў. Апошняя яго рэпліка перад гістарычным галасаваньнем мяне проста зьбянтэжыла і ашаламіла, яна была нібы падказка – не галасаваць. Словаблудзтва было, відаць, не ад злой задумы, а хутчэй ад сумбуру думак (які потым даўся нам у знакі). Трэба было імгненна нешта зрабіць, заставалася секунда-дзьве.

Я ўзяў слова і паспрабаваў зьвярнуцца да нацыянальнай годнасьці і прагматычнага інтарэсу савецкіх дэпутатаў, паказваючы агрэсіўную сутнасьць палітыкі з усходу і намякаючы на „сьвятую" тады карову часовай маскоўскай дэмакратыі – Барыса Ельцына, які патэнцыйна стаяў за гэтай палітыкай і якога не любіла косная беларуская партнамэнклятура. Здаецца, я ўгадаў іхныя думкі, яны сталі выступаць у падтрымку незалежнасьці, і прытым дастаткова абгрунтавана. Стрэлка рашучай гатовасьці ў зале перад галасаваньнем пайшла ў гару.

Галасаваньне было пераважным. За незалежную Беларусь прагаласаваў, практычна, увесь Вярхоўны Савет. Чуліся апладысменты. Гэта была радасьць, ад якой займала дух (пра гэта гл. *Сяргей Навумчык. Сем гадоў... с. 62, 63).*

Істотная прычына, чаму колькасна малалікая, але энэргічная дэпутацкая Апазыцыя БНФ здолела адразу перавярнуць той Вярхоўны Савет і навязаць яму сваю палітыку, была ня толькі у выключных якасьцях гэтай Апазыцыі, ня толькі ў савецкай асаблівасьці і парляманцкай адсталасьці таго Вярхоўнага Савета, але і ў тым выдатным факце, што, змагаючыся, Апазыцыя БНФ не нарабіла памылак, якія падарвалі б яе сілы, ці выключылі б з барацьбы, ці скампрамэтавалі б перад выбаршчыкамі. Малалікая структура ў варожым асяроддзі не магла памыляцца ў істотных пытаньнях. Інакш яе тут жа растапталі б. Памыляцца магла парляманцкая бальшыня, ёй гэта менш небясьпечна. Посьпех для нас заключаўся ў парадыгме: не памылыцца і перамагаць. Сакрэт якраз у тым, што нам гэта ўдалося.

***Зянон Пазьняк***

*(Крыніца: Сяргей Навумчык-Зянон Пазьняк. Дэпутаты Незалежнасьці. – Нью Ёрк, Вільня, Варшава, 2010 г., стар. 67-76)*

# МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

У імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа. Амінь.

Божа ўсемагутны, адхіні напасьці ад Бацькаўшчыны нашай Беларусі, захавай на вякі вечныя край вольным, зямлю плоднай, як маці вагітная, паветра чыстым, ваду здаровай, нетры непарушнымі, каб цешылася з ласкі Тваёй усё жывое: і чалавек, і птушка, і жывёліна, і рыба, і малая казурка.

Ойча Нябесны, дабраслаў люд беларускі як у краю, так і далёка па-за яго межамі. Захавай ад варожага ўціску, вайны, голаду, мору, агню пякельнага, патопу, д'ябальскай сілы чарнобыльскай, а таксама ад брацкай нязгоды.

Дабраслаў на еднасьць і ўзаемадапамогу люд беларускі ў кожным месцы зямлі Тваёй, накіруй на шлях дабра і справядлівасьці, спагады да блізкіх і далёкіх нашых.

Памажы нам захаваць у сэрцах веру нашу і славіць Сьвятое імя Тваё на сьвятой мове нашай роднай беларускай.

Дай спазнаць літасьць Тваю, выбач нам грахі нашыя: злабу і гультайства, распусту і хцівасьць, а роўна ж і абыякавасьць да лёсу Беларусі і да гора людзкога. Адвядзі нас ад спакусы, здрады і нявернасьці, крывой прысягі, слоў аблудных і іншых учынкаў, што губяць душы нашы і нясуць сорам Краю нашаму. Сьцеражы нас, Божа, ад грэху халуйства, ад прыніжэньня годнасьці Бацькаўшчыны і нашага народу беларускага.

Не карай нас бяспамяцтвам і ня дай забыцца сьвятой мовы нашай беларускай, гісторыі і традыцыяў нашых, а дай сілы і шчырасьці з адданай любоўю і пашанаю прымнажаць спрадвечнае і высокароднае, што стварылі да нас продкі нашы.

Божа магутны. Божа літасьцівы, пашлі нам сілы і цярпеньня ў стараньнях нашых аб росквіце і волі Бацькаўшчыны нашай і дай нам бязьмерную любоў, каб мы бясконца любілі сьвятую Беларусь, і захавай яе нам на векі вечныя.

Амінь.



(Фота з газэты)

*Д-37. Перад пачаткам 2-га Зьезду БНФ 23-24 сакавіка 1991 г. Курс на незалежнасьць Беларусі. У цэнтры ў першым радзе Васіль Быкаў.*

*Д-38. Горадзенская ветэранская арганізацыя Беларускага Народнага Фронту. 9 траўня 1994 г. Горадня.*




*Д-39. Сьвята Незалежнасьці. Менск, сакавік 1997 г.*




*Д-40. Збор подпісаў за вызваленьне з турмы Валеры Сядова. У цэнтры Сьвятлана Захарэвіч (БНФ). 1991 год, Менск.*



(Фота Ул. Карміліна)

*Д-41. Сьпявае рэлігійны хор "Вунія" на ўгодках бальшавіцка-расейскіх расстрэлаў людзей у Ігумене, 1991 год.*



*Д-42. Зянон Пазьняк са сваімі выбаршчыкамі ў Заводзкім раёне Менска. 1991 год.*



(Фота К. Войткі)

*Д-43. Мітынг БНФ у Менску 26 лютага 1990 г.*



*Д-44. Менская ветэранская арганізацыя БНФ. Фота з кіраўніком Фронта ля сядзібы БНФ. Травень 1994 г.*



*Д-45. Менск, 1991 г. Вярхоўны Савет зь Беларускім Сьцягам і гэрбам „Пагоня" на фасадзе.*

# ФАТАГРАФІІ

*На вокладцы фота перадвыбарчага мітынгу ў Менску 26 лютага 1990 года.*
*На апошняй старонцы вокладкі фрагмэнт фота з шэсьця Беларускага Народнага Фронту ў Горадні ў пачатку 1990-х гадоў.*

**1.** Вярхоўны Савет БССР у 1991 г. *(Фота з тэлевізара)*

**2.** Шэсьце ў Менсаку 24 сакавіка 1996 г.

**3.** Горадня. Жанчыны горадзенскай арганізацыі БНФ вітаюць Незалежнасьць Беларусі. *(Фота пачатку 1990-х гг.)*

**4.** 24 жніўня 1991 г. Пачатак Сэсіі Незалежнасьці. Гаворыць Зянон Пазьняк. Побач Валянцін Голубеў; са сьцягам Вольга Галубовіч. *(Кінакадр)*

**5.** Гаворыць Лявонці Зданевіч *(ТБ)*

**6.** Гаворыць Пётра Садоўскі *(ТБ)*

**7.** Гаворыць Ігар Гермянчук *(ТБ)*

**8.** Дыскусія. Выступае Зянон Пазьняк. *(Фота з тэлевізара)*

**9.** Дыскусія. Выступае Аляксандар Шут. У пэрспэктыве ля мікрафона Мікалай Крыжаноўскі *(ТБ)*

**10.** Дэпутаты Апазыцыі БНФ праганяюць з трыбуны 1-га сакратара ЦК КПБ(КПСС) Анатоля Малафеева, які падтрымаў маскоўскі путч (ГКЧП). Зьлева на пярэднім пляне Галіна Сямдзянава не дае яму падыйсьці да трыбуны.

**11.** Выступае Сяргей Папкоў *(ТБ)*

**12.** Выступае Юры Беленькі *(ТБ)*

**13.** Выступае Сяргей Навумчык *(ТБ)*

**14.** Сьцяг БНФ

**15.** Зянон Пазьняк. Дыскусія „ад мікрафону”. *(Фота з тэлевізара)*

**16.** Выступае Валянцін Голубеў. *(Кінакадр)*

**17.** Начное паседжаньне Апазыцыі БНФ. 1991 г. *(Фота С. Навумчыка)*

**18.** Руцінны дакумант Апазыцыі БНФ з просьбай распаўсюдзіць законапраекты для дэпутатаў. *(З архіву С. Навумчыка)*

**19.** Людзі на плошчы перад Вярхоўным Саветам у час Сэсіі Незалежнасьці. *(Фота з газэты)*

**20.** Устрывожаны ваўкі. *(Фота з Сеціва)*

**21.** Дэпутаты Апазыцыі БНФ у чарзе да дыскусійнага мікрафона. Зьлева направа: Лявон Дзейка, Уладзімер Грыбанаў, Зянон Пазьняк, Віталь Малашка. *(Фота з газэты)*

**22.** Начное паседжаньне дэпутатаў Апазыцыі БНФ. *(Фота С. Навумчыка)*

**23.** Выступае Барыс Гюнтэр *(ТБ)*

**24.** Дыскусія. Ля мікрафона Мікалай Крыжаноўскі. Зьлева ля яго сядзіць Ігар Гермянчук. У пэрспэктыве на дальнім пляне Ўладзімер Станкевіч. *(ТБ)*

**25.** Фрагмэнт менскага сэктара дэпутатаў Вярхоўнага Савета. На пярэднім пляне Вікатар Ганчар (са схіленай галавой), за ім Галіна Сямдзянава (БНФ), далей Валянцін Голубеў (БНФ), далей справа Сяргей Папкоў (БНФ), зьлева камуніст-генэрал Анатоль Новікаў, далей камуніст-ветэран Міхаіл Жукоўскі, замыкае пэрспэктыву Алег Трусаў (БНФ). *(Фота з тэлевізара)*

**26.** Закратаваны вагон. *(Фота з друку)*

**27.** Дыскусія ў залі. Зьлева Сяргей Навумчык, справа Яўген Глушкевіч.

**28.** Дыскусія. Дэпутаты Апазыцыі БНФ у чарзе да мікрафона. Справа налева – Лявонці Зданевіч, Валянцін Голубеў, Алег Трусаў. *(Кінакадр)*

**29.** Дыскусія ў залі. У цэнтры Сяргей Навумчык, зьлева Генадзь Майсееў (паказвае рукой убок). Далей зьлева сядзіць і паказвае пальцам на С. Навумчыка дэпутат-сьвятар Віктар Радамысьльскі. *(Здымак з друку)*

**30.** Дэманстрацыя БНФ у Горадні. Пачатак 90-х гадоў.

**31.** Выступае Галіна Сямдзянава *(ТБ)*

**32.** Выступае Валянцін Голубеў. *(ТБ)*

**33.** Цень тэрарызму і акупацыі.

**34.** Прамаўляе Юры Беленькі

**35.** Выступае Аляксандар Шут

**36.** Складаная сытуацыя. Дэпутат Лявон Баршчэўскі. *(Кінакадр)*

**37.** Рашаючы момант. Кіраўнік Апазыцыі БНФ дэпутат Зянон Пазьняк. *(Кінакадр)*

**38.** Лунае Сьцяг. *(Фота з Сеціва)*

**39.** Авальная заля Вярхоўнага Савета БССР. *(Жнівень 1991 г.; кінакадр)*

## ДАДАТАК

**Д-3.** Зварот дэпутатаў Апазыцыі БНФ. *(Фота з друку)*

**Д-6-32.** Фотапартрэты дэпутатаў Апазыцыі БНФ.

**Д-37.** Перад пачаткам 2-га Зьезду БНФ 23-24 сакавіка 1991 г. Курс на незалежнасьць Беларусі. У цэнтры ў першым радзе Васіль Быкаў. *(Фота з газэты)*

**Д-38.** Гарадзенская ветэранская арганізацыя Беларускага Народнага Фронту. 9 траўня 1994 г. Горадня.

**Д-39.** Сьвята Незалежнасьці. Менск, сакавік 1997 г.

**Д-40.** Збор подпісаў за вызваленьне з турмы Валеры Сядова. У цэнтры Сьвятлана Захарэвіч (БНФ). 1991 год, Менск.

**Д-41.** Сьпявае рэлігійны хор „Вунія" на ўгодках бальшавіцка-расейскіх расстрэлаў людзей у Ігумене, 1991 год. (*Фота Ул. Кармілкіна)*

**Д-42.** Зянон Пазьняк са сваімі выбаршчыкамі ў Заводзкім раёне Менска. 1991 год.

**Д-43.** Мітынг БНФ у Менску 26 лютага 1990 г. *(Фота К. Войткі)*

**Д-44.** Менская ветэранская арганізацыя БНФ. Фота з кіраўніком Фронта ля сядзібы БНФ. Травень 1994 г. *(Фота Ул. Кармілкіна)*

**Д-45.** Менск, 1991 г. Вярхоўны Савет зь Беларускім Сьцягам і гэрбам *„Пагоня"* на фасадзе.

# ПАКАЗЬНІК ПРОЗЬВІШЧАЎ

## А, Б, В, Г, Д



## Е, Ж, З, І, К

## Л, М, Н, О, П

## Р, С, Т, У, Ф



## Х, Ц, Ч, Ш, Э, Ю, Я

# ЗЬМЕСТ

UDK 323(476)(091)
Pa 454

Пазьняк Зянон Станіслававіч

СЭСІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

*Грамадзка-палітычнае выданьне*

**Зянон Пазьняк. СЭСІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ.** Выданьне: „Беларускія Ведамасьці”, Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, Варшава– Нью Ёрк– Вільня, 2011. – 376 с., іл., (Фармат А4). Наклад 1000 асобнікаў. У кнізе аўтарскія артыкулы, матэр’ялы і стэнаграмы Нечарговай пятай сэсіі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 12-га скліканьня (24-25 жніўня 1991 года), на якой аднагалосна была аб’яўлена Незалежнасьць Беларусі шляхам наданьня Дэклярацыі аб суверэнітэце статуса канстытуцыйнага закона і спынена дзейнасьць камуністычнай партыі (КПБ-КПСС).
Кніга разьлічана на гісторыкаў, палітыкаў і шырокага чытача.
ISBN 978-9955-578-15-4
UDK 323(476)(091)
Pa 454

**Zianon Paźniak. SESJA NIEPODLEGŁOŚCI**
**(Зянон Пазьняк. СЭСІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ)**
Wydawnictwo: „Wiadomości Białoruskie”, Towarzystwo Kultury Białoruskiej na Litwie, Warszawa– New York– Wilno, 2011. – 376 s., il., (Format A4,). Nakład 1000 egzemplarzy. W książce zostały zebrane autorskie wspomnienia i analiza historyczna, materiał i stenogram nadzwyczajnej piątej sesji Rady Najwyższej Białoruskiej RRS 12. kadencji (24-25 sierpień 1991 r.), na której jednomyślnie zostały przyjęte przypisy konstytucyjne o niepodległości Białorusi i zakazana działalność partii komunistycznej (KPB-KPZR).
Książka może być interesująca dla historyków, polityków oraz dla czytelnika powszechnego.
(Język białoruski i rosyjski).
ISBN 978-9955-578-15-4
UDK 323(476)(091)
Pa 454



Мастацкі макет, вокладка, афармленьне,
укладаньне і падрыхтоўка да друку: *Зянон Пазьняк.*
Кампутарны склад па макету: *Робэрт Стаховіч.*
Кампутарны набор і карэктура: *Галіна Палачаніна.*
Сканаваньне тэкстаў стэнаграмы: *Сяргей Папкоў*
Аддрукавана: у жніўні 2011 г. у Варшаве.
Наклад: 1000 асобнікаў.
Друк: QLCO.
Папера: афсэтная і крэйдавая (устаўка),
Фармат 44х63, ¼ арк. (А4).
Ул. выдавецкіх арк.: 94,5
Ум. друк. арк. (разам з іл.): 68,7

„Беларускія Ведамасьці”, Варшава 02-017, вул. Ерузалімскія алеі, 125/127.
Таварыства Беларускай Културы ў Летуве, Вільня 02155, вул. Бролю, 9 – 86.

**ISBN 978-9955-578-15-4**

На вокладцы фота перадвыбарчага мітынгу ў Менску 26 лютага 1990 года.
На апошняй старонцы вокладкі фрагмэнт фота з шэсьця Беларускага Народнага Фронту ў Горадні ў пачатку 1990-х гадоў.